*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 8 красавіка 1988 г. № 15 (3425) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## ЖЫВАЯ КРЫНІЦА НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ТРАДЫЦЫЙ

Народная творчасць — неад'емная частка духоўнай культуры савецкіх людзей. Як жыватворная крыніца насычае яна нацыянальныя традыцыі, маральныя сілы і самасвядомасць цэлых пакаленняў. Самадзейны пачатак сацыялістычнай культуры ўзбагачае, рухае грамадства наперад, да новых гарызонтаў, да рэвалюцыйных перамен у нашай Айчыне.

Далейшы ўздым народнай творчасці становіцца ў сучасных умовах адной з буйных задач перабудовы. Пытанням яе развіцця была прысвечана Усесаюзная нарада, якая адбылася 4—5 красавіка ў Маскве ў Калоннай зале Дома саюзаў.

У нарадзе прынялі ўдзел таварышы **Лігачоў Я. К., Якаўлеў А. М., Талызін М. У.**, адказныя работнікі ЦК КПСС, сакратары ЦК кампартый саюзных рэспублік, кіраўнікі рада міністэрстваў і ведамстваў, вядомыя дзеячы культуры, прадстаўнікі савецкіх, прафсаюзных, камсамольскіх арганізацый і працоўных калектываў.

З дакладам выступіў старшыня аргкамітэта Трэцяга Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, старшыня ВЦСПС **С. А. Шалаеў.** Указаўшы на велізарнае значэнне далейшага росту культуры ў справе поўнага аздараўлення духоўна-маральнай атмасферы, ён адзначыў, што застойныя і іншыя негатыўныя з'явы ў развіцці грамадства самым адмоўным чынам адбіліся і на змесце духоўнага жыцця савецкіх людзей, развіцці народнай творчасці. Яе галоўныя вартасці — масавасць, самабытны і нацыянальны характар, высокі патрыятызм і інтэрнацыяналізм — пачалі ў многім страчвацца.

Усе гэтыя акалічнасці выклікаюць сур'ёзную заклапочанасць партыі, самых шырокіх слаёў грамадскасці краіны, патрабуюць далейшых намаганняў па прадухіленню ўрону духоўнаму жыццю савецкіх людзей, выхаванню ў іх высокіх маральных норм і культурных запатрабаванняў, якія адпавядалі б крытэрыям сацыялістычнай маралі, патрабаванням перабудовы і абнаўлення.

Рашэннямі партыі ўжо створаны матэрыяльныя прадпасылкі, спрыяльныя ўмовы для такой работы, паслядоўна зжываецца астаткавы прынцып у адносінах да сацыяльна-культурнага будаўніцтва. Звыш зацверджанага плана за пяцігоддзе на гэтыя мэты будзе накіравана амаль 40 мільярдаў рублёў. Ажыццяўляюцца важныя меры па рэарганізацыі тэатральнай справы, музычна-канцэртнай работы, сферы выяўленчага мастацтва, кінапракату.

Цэнтральны Камітэт КПСС, адобрыўшы вынікі, дасягнутыя ў ходзе Другога фестывалю народнай творчасці, прысвечанага 70-годдзю Вялікага Кастрычніка, падтрымаў прапанову ВЦСПС, ЦК ВЛКСМ, Міністэрства культуры СССР аб правядзенні ў 1988—1991 гадах Трэцяга Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці.

Задача рашучага ўздыму народнай творчасці аб'ектыўна патрабуе асэнсаваць яе гісторыю і цяперашні этап развіцця, весці гэту справу на маштабнай і глыбока навуковай аснове.

Можа, варта падумаць аб тым, каб дзяржаўную праграму эстэтычнага выхавання насельніцтва, распрацоўка якой цяпер актыўна вядзецца, пераўтварыць у грамадска-дзяржаўную праграму эстэтычнага выхавання насельніцтва і развіцця народнай творчасці. У такім выглядзе яна паўней адпавядала б мэтам абнаўлення ўсяго духоўнага жыцця краіны.

Адметная рыса сённяшняга этапа развіцця мастацкай творчасці—цікавасць розных слаёў насельніцтва да фальклору, нацыянальных матываў у песні, танцы, музыцы. Гэта поўнасцю вытлумачальная з'ява: з аднаго боку, на хвалі перабудовы, абнаўлення грамадства ідзе магутны ўздым грамадзянскай і нацыянальнай самасвядомасці, з другога — зварот да свайго спрадвечна народнага — гэта здаровая, непрымірымая рэакцыя нашага сацыялістычнага грамадства на эпідэмію «эрзац-культуры» Захаду.

Было б карысным сёння абмеркаваць, як лепш падтрымаць фальклорны рух, садзейнічаць далейшаму развіццю цікавасці да самабытных, нацыянальных форм народнай творчасці і народнага свята. Варта абмеркаваць пытанне і аб тым, як нам лепш адзначаць прафесіянальныя святы, каб яны сталі прыметнымі ў краіне падзеямі, яркім паказам усіх бакоў жыцця галін.

Жыццё паказвае, што формы кіраўніцтва мастацкай самадзейнасцю, якія складаліся ў мінулыя гады, не здольны эфектыўна вырашаць праблемы аматарскага руху. З-за гэтага многія праяўленні творчай, і ў прыватнасці маладзёжнай, ініцыятывы доўгі час не падтрымліваліся, не атрымлівалі неабходнага прызнання.

З другога боку, адсутнасць каардынацыі, а галоўнае—кампетэнтнага кіравання, парадзілі вакол аматарства нямала негатыўных праяўленняў.

За мінулыя гады накапілася многа пралікаў у рабоце з кадрамі арганізатараў народнай творчасці. Паўсюдна адзначаюцца факты няўважлівых адносін да патрэб культработнікаў, праблем іх працы і быту. Усё гэта вызначае вялікую цякучасць кадраў, нізкі прэстыж прафесіі і слабую аддачу ад іх працы.

ВЦСПС сумесна з Дзяржкампрацай СССР і Міністэрствам культуры СССР вырашылі пытанні аб значным расшырэнні правоў на штатнае сумяшчальніцтва клубных работнікаў і кіраўнікоў самадзейных калектываў, аб прымяненні ў клубах брыгаднай формы арганізацыі і аплаты працы.

Выключна важна ўсямерна развіваць традыцыі шэфства над самадзейнасцю вядучых майстроў культуры і мастацтва, адзначыў прамоўца.

Заслугоўваюць падтрымкі прапановы аб распрацоўцы сумесных праграм духоўнага развіцця працоўных, якія маглі б прыняць прафсаюзы і творчыя саюзы з удзелам органаў культуры. Сумесная праграма ВЦСПС і Саюза пісьменнікаў СССР ужо распрацавана і ажыццяўляецца. Мы гатовы падтрымаць ініцыятывы іншых творчых саюзаў.

Работу КСК трэба ўсямерна падтрымліваць. Асабліва гэта важна ў цяперашняй гаспадарча-разліковай сітуацыі, калі нене ды і праяўляюцца настроі з'эканоміць на сацыяльна-культурнай сферы.

КСК раёнаў і гарадоў павінны па-гаспадарску распарадзіцца велізарнай матэрыяльнай базай: амаль паўмільёнам актавых і спартыўных залаў прадпрыемстваў, устаноў, школ, прафтэхвучылішчаў і іншых навучальных устаноў. Пакуль што толькі трэць іх выкарыстоўваецца для стварэння філіялаў клубных устаноў, гурткоў мастацкай самадзейнасці, клубаў па інтарэсах.

Далейшы ўздым народнай творчасці, развіццё і ўзвышэнне ў кожным савецкім чалавеку творчых задаткаў паслужаць выкананню гістарычных рашэнняў XXVII з'езда Камуністычнай партыі, справе перабудовы і абнаўлення ўсіх бакоў жыцця нашага грамадства.

Выступаўшыя на нарадзе з вялікай зацікаўленасцю гаварылі аб неабходнасці выпрацоўкі агульных падыходаў да стварэння ўмоў для росквіту народнай творчасці, аб'яднання намаганняў у справе духоўнага ўзбагачэння і ўсебаковага развіцця савецкіх людзей. Трэба як мага хутчэй абагульніць канкрэтны вопыт, набыты ў перыяд правядзення Другога Усесаюзнага фестывалю, прысвечанага 70-годдзю Вялікага Кастрычніка.

Задачы развіцця народнай творчасці, як, уласна, і ўся тэорыя перабудовы духоўнай сферы, у апошнія гады паспяхова трансфармуюцца ў рэальную палітыку партыі і ўрада, адзначалі намеснік Старшыні Савета Міністраў Украінскай ССР **М. А. Орлік,** дырэктар Краснаярскага металургічнага завода імя Леніна **А. Н. Кузняцоў** і іншыя.

Змены, якія адбываюцца сёння ў гэтай сферы, патрабуюць адпаведных дзеянняў і з боку партыйных камітэтаў. Аб гэтым гаварылі сакратар ЦК Кампартыі Беларусі **В. А. Пячэннікаў,** сакратар Горкаўскага абкома КПСС **І. З. Барысава.** У гэтай сувязі яны падкрэслівалі, што яшчэ больш узрастае кампетэнтнасць партыйнага кіраўніцтва сацыяльна-палітычнымі і культурна-маральнымі працэсамі.

Без павышэння культуры грамадства ніякія новаўвядзенні не зрушаць з месца механізм застою, не разбураць пануючую пакуль яшчэ ў многіх месцах чалавечую пасіўнасць. Іменна з гэтай прынцыповай пазіцыі разглядалі ўдзельнікі нарады пытанні садружнасці майстроў мастацтва з аматарскімі аб'яднаннямі, прадпрыемствамі, сельскімі гаспадаркамі. Дырэктар Дзяржаўнага акадэмічнага Малога тэатра Саюза ССР **В. І. Коршунаў** расказаў аб цікавых формах творчых сувязей калектыву, які з'яўляецца родапачальнікам культурнага шэфства дзеячаў мастацтва.

Сіла самадзейнага мастацтва — у яго патрыятычнай накіраванасці, у інтэрнацыянальным характары, грамадзянскасці, у яркім адлюстраванні духу перабудовы ўсіх сфер жыцця савецкага грамадства. Дырэктар Палаца культуры і тэхнікі з Камсамольска-на-Амуры **О. Г. Шасцерына,** кіраўнік агітбрыгады з Данецкай вобласці **Г. Н. Янаў,** дырэктар саўгаса «Наўгародскі» Наўгародскай вобласці **А. Н. Цароў** гаварылі аб энтузіястах мастацкай самадзейнасці, беззапаветна адданых любімай творчасці.

У нашай краіне, указала мастацкі кіраўнік ўзорнага калектыву дзіцячай харавой студыі з Дубны Маскоўскай вобласці **О. Н. Іонава,** многа арганізацый, якія кіруюць самадзейнай творчасцю. Але яны часта далёкія ад практыкі, не ведаюць становішча спраў у калектывах. Прагучала прапанова стварыць паўсюдна метадычныя цэнтры, творчыя лабараторыі.

Праблема заключаецца ў тым, удакладніў мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага ансамбля народнага танца СССР **І. А. Майсееў,** каб стварыць такія ўмовы, пры якіх магчыма большая колькасць людзей маглі б самі выявіць сябе з дапамогай культуры, мастацтва.

Мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага рускага хору СССР **В. Н. Мінін** з трывогай гаварыў аб становішчы народнай музычнай творчасці. Ён канстатаваў, што ў грамадстве працэс стварэння музыкі ўсё больш уступае месца яе спажыванню. Развіццю фальклорных традыцый прысвяціў выступленне паэт **В. Ф. Бокаў.**

Удзельнікі нарады звярнулі ўвагу на тое, што ў радыё- і тэлеперадачах вядучае месца належыць лёгкай музыцы, асабліва року. Яна сістэматычна прапагандуецца і проціпастаўляецца музыцы класічнай і народнай. Ёй адводзяцца лепшыя гадзіны эфіру, яна падаецца цікава, з выдумкай. Такую ж энергію, аператыўнасць і фантазію, на думку міністра культуры РСФСР **Ю. С. Мяленцьева,** дырэктара Грузінскага рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветнай работы **Ц. Л. Качэчашвілі,** неабходна накіраваць на эстэтычнае выхаванне і прапаганду сапраўды высокага мастацтва.

Патрэбна стварыць умовы для разнастайнага праяўлення натуральнай цягі маладога чалавека да прыгожага, для магчымасці тварыць, падкрэсліў у сваім выступленні першы сакратар ЦК ВЛКСМ **В. І. Міроненка.** Гэта не толькі праблема культуры, а прынцыповае пытанне будучыні краіны. Самадзейнасць — важнейшы сродак выхавання моладзі, і не толькі эстэтычнага, але і фізічнага, працоўнага.

Шырыня аматарскіх інтарэсаў, творчы пошук і ініцыятыва маладых уступілі ў супярэчнасць з фармалізмам і аднастайнасцю, якіх яшчэ нямала ў рабоце клубаў і дамоў культуры, камсамольскіх арганізацый, указвалася ў выступленнях старшыні праўлення Саюза мастакоў РСФСР **В. М. Сідарава,** мастацкага кіраўніка маскоўскага тэатра-студыі «На паўднёвым захадзе» **В. Р. Бяляковіча,** рэктара Магнітагорскага горна-металургічнага інстытута **В. М. Рабкава.**

Калі мы сапраўды хочам выйсці на новыя гарызонты ў развіцці народнай самадзейнай творчасці, неабходна большая ўвага матэрыяльна-тэхнічнай базе, тэхнічнаму пераўзбраенню ўсёй сферы культуры. Гэту думку выказалі старшыня Эстонскага рэспубліканскага савета прафсаюзаў **М. А. Педак,** загадчык Савецкага раённага аддзела культуры Паўночна-Казахстанскай вобласці **Т. А. Касеінаў,** старшыня Саюза кампазітараў Таджыкістана **Д. В. Дустмухамедаў** і іншыя прамоўцы. Неабходны сучасная высакаякасная тэхніка і інструменты. У клубы, палацы культуры, бібліятэкі, музеі, тэатры павінны шырока ўвайсці навейшыя відэаўстаноўкі, тэлевізійныя стэрэаэкраны, галаграфія, камп'ютэры. Вырвацца з адсталасці, аснасціць нашы ўстановы культуры сучаснымі сродкамі, падкрэслівалася на нарадзе, мае вялікае ідэалагічнае значэнне.

Удзельнікі нарады прыйшлі да агульнага вываду аб тым, што развіццё самадзейнай творчасці працоўных з'яўляецца важнейшай састаўной часткай шматграннай пераўтваральнай работы, якая ідзе ў краіне. Раскрыць у ходзе перабудовы ўсе таленты і здольнасці народа, увасобіць іх у працэсы абнаўлення сацыялістычнага грамадства — няма сёння задачы больш актуальнай і важнай.

На нарадзе выступіў член Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС **Я. К. Лігачоў.**

**ТАСС.**

# ФАРБЫ МУЗЫЧНАЙ ВЯСНЫ

«Мінская вясна» сёлета — незвычайная. На фоне традыцыйнага нашага фестывалю камісія па сімфанічнай музыцы Саюза кампазітараў СССР (яе ўзначальвае народны артыст СССР А. Эшпай) наладзіла выязны пленум. І таму першая красавіцкая дэкада ў канцэртным жыцці нашай сталіцы як ніколі раней разнастайная і напружаная.

У праграмах філарманічных вечароў прагучалі і прэм'еры беларускіх аўтараў — Я. Глебава, С. Картэса, У. Дарохіна, А. Залётнева, С. Бельцюкова, У. Кур'яна, В. Капыцько, А. Бандарэнкі, А. Елісеенкава, і ўжо знаёмыя слухачам опусы А. Багатырова, Д. Смольскага, Г. Вагнера, А. Мдзівані, І. Паліводы і інш. Новых фарбаў фестывальнай палітры надалі творы Т. Шахідзі (Таджыкістан), Л. Ісмагілавай (Башкірыя), М. Таджыева (Узбекістан), масквічоў А. Эшпая, М. Пяйко, В. Кікты...

Акадэмічны сімфанічны аркестр БССР і Акадэмічны народны аркестр імя І. Жыновіча, Хор Дзяржтэлерадыё БССР пад кіраўніцтвам В. Роўды і Маладзёжны камерны хор пад кіраўніцтвам І. Мацюхова, Мінскі камерны аркестр і Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі: дырыжоры Ю. Яфімаў, М. Казінец, А. Палянічка, І. Галаўчын, М. Фінберг... Гэта далёка не поўны пералік выканаўцаў, прадстаўленых у канцэртах.

Сапраўдным асяродкам творчага жыцця сталіся штодзённыя сустрэчы ўдзельнікаў выязнога пленума за «круглым сталом» у Саюзе кампазітараў БССР. Вёў іх А. Эшпай. Прысутныя знаёміліся з фанаграмамі і партытурамі твораў кампазітараў братніх рэспублік, абмяркоўвалі праслуханую музыку, спрачаліся аб праблемах развіцця сучаснага сімфанізму. Гаворка была, прынамсі, пра творы А. Тэртэрана (Арменія), В. Сільвестрава (Масква), П. Плакідзіса (Латвія), О. Балакаускаса (Літва), Ф. Яноў-Яноўскага (Узбекістан), Ж. Гаджыева (Азербайджан), мінчан Р. Суруса, Л. Шлег, У. Дамарацкага. За «круглым сталом» выступалі кампазітары А. Эшпай, М. Пяйко, І. Лучанок, А. Тэртэран, Ю. Фалік, А. Зацін, Б. Арановіч, М. Скорык, П. Плакідзіс, Ф. Яноў-Яноўскі, П. Альхімовіч, У. Дарохін, музыказнаўцы Д. Банявічэне, М. Рухкян, Л. Назарава, У. Аксёнаў, Н. Калеснікава і іншыя прадстаўнікі Масквы і Ленінграда, Арменіі, Літвы, Малдавіі, Латвіі, Таджыкістана, Азербайджана, Узбекістана, Украіны, Беларусі.

Днямі раз'ехаліся з Мінска госці — удзельнікі пленума. Ды канцэрты «Мінскай вясны» працягваюцца. Заключным яе акордам будзе выніковая дыскусія, абвешчаная на 10 красавіка. А праз нейкі час «ЛіМ» надрукуе нататкі пра сёлетні, пяты ўжо, вясновы музычны фестываль у Мінску.

**Наш кар.**



Удзельнікі выязнога пленума М. Рухкян (Ерэван), Д Банявічэне (Вільнюс), Б. Арановіч (Масква), А. Эшпай (Масква), С. Сапожнікаў (Масква), С. Картэс (Мінск).

Фота Ул. КРУКА.

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

● ***ВЫДАТКАВАНА—ТРЭБА СПАЖЫЦЬ...***

● ***ЦІ ЗАДАВОЛІЦЦА АДПІСКАЙ?***

● ***«ТЫ БУДЗЕШ, МОЙ ХЛОПЧА, РАБІЦЦА МУДРЭЙ»***

● ***У БІБЛІЯТЭКУ... ПРАЗ ФОТААТЭЛЬЕ***

●

Колькі робіцца ў нас, аказваецца, дзеля прыліку, дзеля таго, каб толькі выгляд рабіць, што нешта робіцца! А грошы на гэтую марную работу выдаткоўваюцца і — немалыя.

Мінулай восенню над мостам Чыжоўскага вадасховішча з'явіўся заклікператварыць Мінск у горад здароўя. Менавіта пра гэта і клапоціцца наша дзяржава. Як практычна вырашыць гэтую высакародную задачу? Трушком я пабег па беразе ў пошуках лодачнай станцыі ці пункту пракату спортінвентару. На жаль, бераг быў пусты. Вось і вер пасля гэтага заклікам.

А ўзяць нашу гарадскую светлавую газету. Вечарамі па фасадзе будынка паліграфічнага камбіната, што на плошчы Якуба Коласа, спраўна бягуць словы, якія свецяцца. Яны расказваюць пра навінкі гандлю, бытавыя паслугі і іншае. Але вось бяда: нікому не прыходзіць у галаву чытаць іх па складах і запісваць у блакнот адрасы і тэлефоны. Ніводная арганізацыя гандлю і бытавога абслугоўвання не ведае пра «эфектыўнасць» такой рэкламы, аднак грошы на яе, і немалыя, выкладвае рэгулярна, нават у жорсткіх умовах самафінансавання. А што рабіць? Рашэнне ж Мінгарвыканкома, прынятае ў так званы застойны час на гэты конт, ніхто не адмяняў. І трэст «Мінгарсвятло» акуратна папаўняе за кошт такой рэкламы сваю казну.

Адзін раз на тыдзень газета «Вячэрні Мінск» публікуе на трэць паласы падборку аб'яў «Служба быту прапануе». Указваюцца адрасы і тэлефоны прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання, пазнаёміцца з якімі не пад сілу і самаму ўседліваму чытачу. Паўтараюцца яны з месяца ў месяц. Кошт кожнай падборкі для бытавікоў — больш за тры тысячы рублёў. Заўважым, гэтыя ж паслугі дубліруюць радыё і тэлебачанне. Каму яны патрэбны? Аказваецца, Міністэрства бытавога абслугоўвання насельніцтва БССР некалі выдаткавала ў год на рэкламу 500 тысяч рублёў—вось і «гоняць» яе па ўсіх каналах.

**У. ЮДЗІН.**

г. Мінск.

●

У свой час мы звярнуліся ў Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР з такой заявай: «Нашы дзеці вучацца ў 1-Ж класе 180-й школы г. Мінска. Навучанне вядзецца на беларускай мове. Гэтым мы вельмі задаволены, але ў сувязі з гэтым узнікла і наша занепакоенасць.

Справа ў тым, што настаўніцы нашых дзяцей (нядаўняй выпускніцы педінстытута) давялося, па сутнасці, самастойна авалодваць методыкай беларускамоўнага навучання. Не думаем, што гэты працэс перавучвання настаўніка робіць гонар айчыннай педагогіцы. Гаворка, вядома ж, не пра нейкага канкрэтнага настаўніка, а пра тое, што ў Беларусі беларускамоўных настаўнікаў не рыхтуюць ні па аднаму школьнаму прадмету (за выключэннем, зразумела, беларускай мовы і літаратуры). Пасля заканчэння нашымі дзецьмі пачатковай школы перад іх настаўнікамі зноў паўстане праблема мовы навучання. І ўжо не аднаму, а многім (гісторыку і матэматыку, біёлагу і географу, хіміку і фізіку) давядзецца перавучвацца. Дык ці не прасцей адпаведных настаўнікаў рыхтаваць у сценах вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў?

У пастанове лютаўскага (1988 г.) Пленума ЦК КПСС гаворыцца пра неабходнасць пашырэння практыкі нацыянальна-рускага двухмоўя, пра стварэнне двухмоўных школ і г. д. Як мы разумеем, работа ў гэтым кірунку пачынаецца надоўга і ўсур'ёз. А без школьных настаўнікаў, адпаведна выхаваных і падрыхтаваных, такую работу не зрабіць. У сувязі з гэтым і наша канкрэтная і настойлівая прапанова: мы лічым неабходным адкрыць у новым навучальным годзе ва ўсіх рэспубліканскіх навучальных установах педагагічнага напрамку аддзяленні для падрыхтоўкі настаўнікаў для беларускамоўных школ».

Адкрыццё беларускамоўных аддзяленняў у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных установах з'яўляецца жыццёва неабходным не для нас адных. Як можна зразумець з адказу міністэрства, з такой жа, відаць, прапановай звярталіся і са 108-й школы г. Мінска. Перакананы, што не маглі не ставіць перад міністэрствам гэтага пытання і бацькі шматлікіх сельскіх школьнікаў.

З міністэрства мы неўзабаве атрымалі адказ. Прыводзім яго на мове арыгінала:

«В связи с письмом группы родителей учащихся средних школ № 108 и № 180 о переводе (так у тэксце. — **Аўтары ліста**) подготовки учителей на белорусский язык Министерство сообщает, что в настоящее время в университетах на (так у тэксце. — **А. Л.**) педагогических специальностях и отделениях осуществляется преподавание белорусского языка, рассматриваются меры по преподаванию на белорусском языке ряда дисциплин, определяющих специальную и методическую подготовку выпускников. Их реализация (так у тэксце.— **А. Л.**) будет проводиться с учетом специфики обучения по каждой специальности, наличия кадров необходимой квалификации, организационно-методи

# ТВАЁ МЕСЦА Ў ПЕРАБУДОВЕ...

**З партыйнага сходу Саюза пісьменнікаў**

Як паведамлялася ўжо, 23 сакавіка адбыўся чарговы адкрыты партыйны сход Саюза пісьменнікаў рэспублікі. Адкрываючы яго, сакратар партбюро Г. Пашкоў паведаміў, што мяркуецца рэгулярна выносіць на парадак дня пытанне «Маё месца ў перабудове». Час галоснасці і дэмакратыі прадвызначае адкрытае абмеркаванне дзейнасці камуністаў, аддачы кожнага агульнанароднай справе. Хочацца, каб такія справаздачы праходзілі ў духу патрабавальнасці, каб яны былі крытычнымі і самакрытычнымі, каб было паменей ялею, а крытыка вызначалася канкрэтнасцю, дзелавітасцю і спрыяла паляпшэнню спраў.

**Сёння, працягваў Г. Пашкоў, мы заслухаем службовую, а заадно і творчую справаздачу камуніста С. Законнікава — галоўнага рэдактара часопіса «Полымя». Само сабой, што гэта не толькі яго асабістая справаздача, а, у немалой ступені, і справаздача ўсяго калектыву часопіса. Зрэшты, гаворка можа пайсці і шырэй, бо, закрануўшы праблемы «Полымя», мы можам выйсці і на праблемы, якія хвалююць і іншыя нашы выданні.**

**З першым пытаннем, зазначыў Г. Пашкоў, цесна пераплятаецца і другое — «Прапаганда мастацкай літаратуры: вопыт, праблемы, задачы». Цяжка ўявіць пісьменніка, які б абыякава ставіўся да лёсу сваёй кнігі —свайго духоўнага дзіцяці. І, пэўна, кожнаму знаёма тое горкае пачуццё, што ўзнікае, калі нашы кнігі не спяшаюцца пакінуць прылаўкі кнігарань. Якія прычыны гэтага? Мова? На жаль, так. Якасць? Безумоўна. Недасканаласць прапаганды і рэкламы? Несумненна. Але калі пра стан мовы мы гаворым цяпер на розных нашых форумах, а пра якасць літаратуры — амаль на кожным пасяджэнні, то аб прапагандзе кнігі дбаем куды менш, абмяжоўваем гаворку абмеркаваннем работы Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР. Але ж прапагандай літаратуры займаецца не толькі бюро, а і добры тузін дзяржаўных і грамадскіх устаноў ды арганізацый. Наша задача — вызначыць кропкі судакранання, каб можна было паспяхова згуртаваць сілы і весці прапаганду беларускай кнігі ў адным, агульным рэчышчы.**

С. Законнікаў, пачынаючы сваю справаздачу, заўважыў, што сапраўдная яго праца ў часопісе толькі пачынаецца, што робіцца пакуль што першыя крокі па шляху перабудовы рэдакцыйнай работы ў новых умовах. Ён назваў найбольш значныя творы прозы, паэзіі, драматургіі, змешчаныя летась у часопісе, адзначыў актывізацыю публіцыстыкі, зрухі ў рабоце аддзела крытыкі і літаратуразнаўства.

Часопіс, працягваў прамоўца, пачаў больш актыўна выходзіць на пытанні, звязаныя з гісторыяй нашага народа, яго духоўнай спадчынай. Гэты накірунак мы лічым для сябе надзвычай перспектыўным і плённым, а самае галоўнае — патрэбны для шырокага кола чытачоў. Наша гістарычная навука, сказаў С. Законнікаў, знаходзіцца ў заняпадзе. Многія падзеі — ад сівой мінуўшчыны да нашых дзён — давядзецца яшчэ спасцігаць, асэнсоўваць, а вельмі часта і пераглядаць. У мінулым не павінна быць белых плям. Цікавасць да гісторыі, да лёсу выдатных людзей, якімі багатая беларуская зямля, цяпер вельмі вялікая. Прыклад таму — чытацкія водгукі на артыкул А. Каўко «Нялёгкія дарогі кнігадруку», апублікаваны летась у дзесятым нумары часопіса.

Закрануў С. Законнікаў і пытанні прапаганды часопіса. Сустрэчы супрацоўнікаў рэдакцыі з чытачамі, выступленні па радыё, тэлебачанні, у друку, чытацкія канферэнцыі спрыялі таму, што падпіска вырасла на 355 экземпляраў. На жаль, у кіёскі «Саюздруку» паступае толькі 1652 экземпляры «Полымя». А ў адным жа Мінску каля 350 кіёскаў!

Расказваючы пра творы, якія з'явяцца на старонках часопіса ў бліжэйшы час, С. Законнікаў звярнуў увагу на шэраг праблем, якія замінаюць нармальнай рабоце калектыву. Гэта і непрыстасаванасць рэдакцыйнага памяшкання, і неразумная ганарарная палітыка, і адсутнасць сродкаў на рэцэнзаванне твораў, а таксама рэдактарскага фонду. Нельга не сказаць і пра тое, на якой шэрай, прытым неаднароднай паперы друкуецца часопіс, а між тым кошт нумара неабгрунтавана высокі. У дадатак, працягваў С. Законнікаў, сёлета, у сувязі з пераходам выдавецтва «Полымя» на гаспадарчы разлік, работнікам рэдакцыі перасталі плаціць прагрэсіўку. Міжволі прыходзіць думка: ці не лепей было б часопісы «Полымя», «Нёман», «Беларусь» перадаць выдавецтву «Мастацкая літаратура»?. А яшчэ лепш — перадаць выдавецтва «Мастацкая літаратура» Саюзу пісьменнікаў, або стварыць новае — «Савецкі пісьменнік», дзе знайшоўся б належны прытулак і літаратурна-мастацкім выданням.

І самае важнае, падкрэсліў прамоўца, — калі, нарэшце, мы перастанем блытаць ідэалогію, культуру з эканомікай? Ніколі ідэалогія не вымяралася рублём. Яна вымяраецца духоўным здароўем народа. І хіба можна мірыцца з тым, што выдаўцы і сёння лічаць беларуска-моўныя літаратурныя выданні «нахлебнікамі», таму што яны, маўляў, не даюць прыбытку. Ці ж выданні вінаваты ў тым становішчы, якое склалася ў рэспубліцы з роднай мовай, у тым, што яны выходзяць такім мізэрным тыражом? Ці не час ужо проста разумна весці фінансавую палітыку, пераразмяркоўваючы выдавецкі прыбытак?

Усё гэта, сказаў у заканчэнне С. Законнікаў, вельмі засмучае. А ўвогуле настрой у рэдакцыйнага калектыву ёсць, задачы свае мы разумеем, і таму будзем імкнуцца рабіць часопіс як мага лепшым, каб ён адпавядаў патрабаванням часу. Ну, а пра сваю ўласную творчасць скажу літаральна два словы. Летась выйшлі дзве кніжкі паэзіі: у «Мастацкай літаратуры» — «Сутнасць» і ў «Юнацтве» — «Вечная далеч». Апошнім часам пішу няшмат, уся ўвага аддадзена часопісу. Упэўнены, што

ческого обеспечения соответствующих курсов, при соблюдении принципа свободы выбора языка обучения для (так у тэксце! — **А. Л.**) студентов вузов.

Член коллегии — Начальник Управления вузов В. Т. Воднев».

І прыйшло гэта да нас «от 16.03.88 г.» і за «№ 32-05-Ж-97». Можна здагадацца, з якой аператыўнасцю ўвесь паслявальны час «рассматриваются меры», пра якія «широкі» «ряд дисциплин» ідзе гаворка і з якой настойлівасцю ды паслядоўнасцю ўсё гэта будзе ажыццяўляцца — «с учетом специфики обучения», але без «жаданага» «наличия кадров», «при соблюдении принципа свободы выбора» (не студэнтамі, а для студэнтаў!) і пры адпаведным «организационно- методическом обеспечении» такога выбару.

І ўсё ж мы верым: яшчэ не вечар. Яшчэ толькі раніца перабудовы. Калі з намі нашы дзеці, задаволіцца такой адпіскай не маем ніякага права.

**І. АЛБУТ, Т. ГУРЫНА, В. ЖЫБУЛЬ, А. ЗВЯРКО, А. КАЗАК, С. ЛОПУХ, Г. ПАШКЕВІЧ, Я. СКРЫПЧЫК, В. СКУРАТ, В. ШПІЛЕЎСКАЯ.**

●

З увагай сачу ў беларускай прэсе (у тым ліку і ў «ЛіМе») за дыскусіяй аб лёсе беларускай мовы. І з кожнай новай публікацыяй заўважаю, што менш за ўсё гучаць у гэтай размове галасы тых, хто рэальна ацэньвае моўныя абставіны ў рэспубліцы. А абставіны такія, што ў Беларусі гістарычна складвалася сітуацыя для распаўсюджвання двухмоўя. Прычым не толькі руска-беларускага, але і польска-беларускага. Натуральна, што пры такой сітуацыі вялікае распаўсюджванне атрымала руская мова, як найбольш універсальны сродак інфармацыйных і дзелавых зносін і ў межах Беларусі, і ў межах шматнацыянальнага Савецкага Саюза. Роднасць двух моў *замацавала* гэта распаўсюджванне.

Высакародная мэта ў тых людзей, якія выступаюць за павышэнне статусу беларускай мовы. Але, чытаючы іх пісьмы, заўважаеш, што, абвінавачваючы іншых у «насаджэнні» рускай мовы, яны часам, свядома ці міжволі, галасуюць за прымусовае вывучэнне беларускай мовы.

Характэрнае ў гэтым сэнсе пісьмо П. Крупко, электрыка Мінскага завода халадзільнікаў, змешчанае ў «ЛіМе» за 18 сакавіка бягучага года. Адстойваючы шырокае вывучэнне беларускай мовы ў школах, ён піша: «*І вось тут трэба прымаць меры, толькі не адміністрацыйныя, а нейкія іншыя*». Слушная думка.

Але чытаеш далей — і дзіву даешся. Аўтар пісьма прапануе, каб пры паступленні ў любую ВНУ рэспублікі: «...*сачыненне пісалася толькі на беларускай мове, за выключэннем тых, хто паступае з другой рэспублікі*...»

Даруйце, але ж гэта—ні што іншае, як прымус. Лічу, што існуючы цяпер прынцып добраахвотнасці пры выбары мовы навучання, мовы для публістычнай і літаратурнай творчасці — найбольш дэмакратычны, адпавядаючы сутнасці нашай шматнацыянальнай дзяржавы.

У пісьме таго ж П. Крупко прыводзіцца яскравы прыклад: рускі, ленінградзец Л. Шуршылін дасканала авалодаў беларускай мовай і з задавальненнем чытае творы беларускіх аўтараў на іх роднай мове. Дык хто перашкаджае зрабіць гэтак жа кожнаму даросламу чалавеку, які жыве ў Беларусі? Тут суддзёй могуць быць толькі асабістыя імкненні і свядомасць чалавека.

Нарэшце аб дзецях — справа складаней. Але ў рэшце рэшт дзеці залежаць ад дарослых. Калі ў сям'і будуць паважаць і шанаваць беларускую мову, то і дзеці будуць адносіцца да яе гэтак жа.

**В. КРЫЖЭВІЧ,**
**журналіст.**

г. Чавусы.

■ **ПАЭТЫЧНЫ ВОДГУК**

# ЛІДЭРУ «ТУТЭЙШЫХ»

Мне давялося браць удзел у семінары кіраўнікоў літаб'яднанняў. які адбыўся ў Доме літаратара ў Мінску 24 сакавіка. Уразіла, а правільней будзе сказаць, здзівіла выступленне на семінары аднаго з кі*раўнікоў* таварыства маладых літаратараў А. Сыса. Найперш — дэманстрацыяй нейкай незразумелай адасобленасці «Тутэйшых».

Пра гэта напісаўся верш —ліст маладому калегу.

**Узяў сабе ролю**
**зайздросную —**
**Лідэра.**
**Табе падабаецца**
**Роля твая.**
**Але ў алфавіце —**
**Апошняя літара**
**Спакусная гэтая літара**
**«Я».**

**Мо свет уяўляецца**
**З белага й чорнага?**
**Мільёны ў ім фарбаў,**
**Адценняў, масцей...**
**Дазволь нагадаць:**
**Шчэ ад веку пячорнага**
**Узнікла праблема**
**Бацькоў і дзяцей.**

**Карціць вам прымераць**
**Судзейскія мантыі.**
**Памылкамі вы**
**Папракаеце нас.**
**А вашыя дзеці**
**(Не маем гарантыі)**
**Не зробяць аднойчы**
**Падсуднымі вас?**

**Так, шлях наш**
**Не гладкаю быў аўтастрадаю.**
**Ды, можа, й да вас**
**Лёс не будзе дабрэй.**
**І з кожнаю стратаю,**
**З кожнаю здрадаю**
**Ты будзеш, мой хлопча,**
**Рабіцца мудрэй.**

**Ты будзеш асобу ў сабе**
**Загартоўваць,**
**Яна — не ў стракатасці**
**Модных адзеж.**
**Ды перш, чым навокал**
**Кагосьці згуртоўваць,**
**Падумай сур'ёзна,**
**Куды павядзеш.**

**Згаджаюся,**
**Мала такога друкуецца,**
**Дзе вобраз адметны,**
**Дзе моўны прастор.**
**...Зязюлі і той, мабыць,**
**Цяжка кукуецца —**
**Знікаюць крыніцы,**
**Атручаны бор.**

**Трымаем Пегаса**
**Нябачнымі путамі.**
**То пугай сячэм,**
**То падкормім сыцей.**
**...Ці зробяцца нашыя дзеці**
**Манкуртамі?**
**Ці мы адрачэмся**
**Ад родных дзяцей?!**

**Да мовы любоў...**
**— Не было б толькі позаю,**
**Калі гэта боль,**
**То хвала барацьбе!**
**Ці вы палюбілі**
**Любоўю цвярозаю**
**Не слова ў сабе,**
**Але ў слове — сябе?..**

**Калісьці лічылі нас**
**Максімалістамі,**
**І мы «выступалі»,**
**Дальбог не хлушу.**
**Па форме**
**Вы будзьце сабе «металістамі»,**
**Абы не скавала металам**
**Душу.**

**Хай шчыра пяецца,**
**Смяецца і любіцца,**
**Ваюецца з тым,**
**Хто падлазіць смаўжом!**
**...А талент сапраўдны**
**Ніколі не згубіцца,**
**На прагную глебу**
**Пральецца дажджом.**

**Святлана БАСУМАТРАВА.**

●

Абураны, пакінуў я на днях Дзяржаўную бібліятэку БССР імя У. І. Леніна. Відаць, перабудова яшчэ не пастукала ў яе дзверы, з-за чаго мноства добрасумленных людзей не могуць туды... трапіць.

Сакавіцкім вечарам прыйшоў я ў бібліятэку. Павітаўшыся з вахцёрам і прад'явіўшы студэнцкі білет, спытаў дазволу прайсці ў чытальную залу. Але, як высветлілася, *уваход у залу толькі па «білеце чытача»*, а каб атрымаць яго, трэба звярнуцца ў рэгістратуру. Стаў у чаргу. Калі яна падышла, мяне раптам спыталі: «Фотаздымак з сабой ёсць? Інакш не прапусцім...»

Я спрабаваў было растлумачыць: каб наведаць адзін раз бібліятэку, мне, атрымліваецца, трэба як мінімум два разы наведаць фотаатэлье. А на гэта ж пойдзе шмат часу. Няўмольная жанчына адмоўна паківала галавой, абвясціўшы, што яна дзейнічае строга па інструкцыі. У выніку некалькі чалавек тут жа пакінулі чаргу і накіраваліся да выхаду. Я ж папрасіў вахцёра прапусціць мяне, прад'яўляючы яшчэ і пашпарт. Нельга! Праўда, пасля доўгіх угавораў мяне нарэшце прапусцілі ў чытальную залу. Але ж паперка — разавы пропуск, — якую я старанна запаўняў і якую мне прапанавалі ўзяць з сабою ў залу, таксама не мела сілы: мне паведамілі, што ўсё роўна кнігі па ёй не выдадуць. На шчасце, слоўнікі — мэта майго прыходу — былі размешчаны на паліцах для вольнага карыстання, і прасіць выдаць іх мне ўжо не было патрэбы...

Нехта ж прыдумаў такі парадак, што нават прад'явіўшы пашпарт, чалавек не можа трапіць у чытальную залу?!

А калі ўсё ж бюракратычная інструкцыя абгрунтавана нейкімі «вышэйшымі інтарэсамі», дык, можа, варта побач з бібліятэкай размясціць філіял фотаатэлье «Хвілінка»?..

**А. ЯЖЭВІЧ,**
**студэнт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў.**

■ **НАМ АДКАЗВАЮЦЬ...**

У калектыўным пісьме мазыран («ЛіМ» за 29 студзеня 1988 г.) з трывогай гаварылася аб тым, як пад знакам мадэрнізацыі ў горадзе Мазыры вынішчаецца старажытная архітэктура, у прыватнасці, прынята *рашэнне аб зносе* «Дома Веры Харужай».

З гэтым пісьмом мы звярнуліся ў **Мазырскае гарадское таварыства** аховы помнікаў гісторыі і культуры. Атрымалі адказ за подпісам старшыні савета таварыства, ганаровага члена таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры БССР А. П. Эльмана. Ён паведаміў: «Будынак, аб якім ідзе гаворка ў апублікаваным матэрыяле, з'яўляецца гістарычным помнікам, бо ў свой час тут вучылася В. З. Харужая. Але ён ужо даўно стаў аварыйным.

Рашэннем Мазырскага гарвыканкома, а затым Гомельскага аблвыканкома ўзбуджана хадайніцтва перад Саветам Міністраў БССР аб зносе гэтага будынка. Савет Міністраў не згадзіўся з гэтым рашэннем.

Летась быў праведзены сход грамадскасці горада, на якім была падтрымана прапанова аб зносе. Мы звярнуліся ў гарвыканком з прапановай скласці каштарыс на перааблаштаванне будынка і стварэнне там мемарыяльных пакояў Харужай.

Драўляны фонд старой архітэктуры ў нас на ўліку, і пасля паступовага высялення жыхароў у новыя дамы, яны будуць рэстаўраваны».

Адказ гэты выклікаў недаўменне. Тое, што будынак з'яўляецца гістарычным помнікам, даказваць не трэба, аб гэтым пісалі аўтары пісьма. Тое, што ён знаходзіцца ў аварыйным стане, таксама яны паведамлялі. Больш таго, прасілі выратаваць будынак, захаваць для горада, стварыць у ім музей.

Тав. Эльман піша, што Савет Міністраў рэспублікі не пагадзіўся з рашэннем аб зносе дома. А якая пазіцыя таварыства? Чаму пра гэта нічога не гаворыцца?

Незразумела з адказу і тое, хто праводзіў і як праходзіў сход грамадскасці, на якім прынята досыць дзіўнае рашэнне.

Апошні ж абзац нагадвае рэбус, які не разгадаць. Што будзе рэстаўравацца: ці дом Веры Харужай, ці новыя дамы?

Застаецца толькі запытаць, *якой пазіцыі трымаецца* тут Мазырскі гарвыканком, які да гэтага часу не адказаў на нашу публікацыю.

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ «ЛіМа».**

---

гэта сёння важней, чым нешта сваё.

**Нібы прадоўжыў справаздачу С. Законнікава В. ЗУЁНАК, які першым выступіў у спрэчках. Ён гаварыў пра творчыя набыткі С. Законнікава-паэта, высока ацаніўшы нядаўнюю падборку твораў С. Законнікава ў «ЛіМе», яго паэму «Кульмінацыя», што стала яркай удачай не толькі самога аўтара, але і ўсяго беларускага ліра-эпічнага жанру.**

**А. КЛЫШКА адзначыў, што атмасфера ў рэдакцыі часопіса «Полымя» па-сапраўднаму творчая, кожны супрацоўнік выразна бачыць перспектыву, адначасова падкрэсліўшы, што часопіс робіцца ўсё ж шырокай пісьменніцкай грамадскасцю, і яго ідэйны і мастацкі ўзровень залежыць ад творчых намаганняў усіх літаратурных сіл рэспублікі.**

**У творчасці С. Законнікава, зазначыў А. КАПУСЦІН, імпануе публіцыстычная завостранасць і адначасова шчырасць. Відавочна і тое, што часопіс, галоўным рэдактарам якога ён з'яўляецца, імкнецца друкаваць творы, вартыя тых змен, якія адбываюцца сёння ў жыцці грамадства. Г. КОЛАС, выказаўшы задавальненне зменамі ў рабоце часопіса, крытыкаваў ранейшы стыль узаемаадносін рэдактуры з аўтарскім актывам. П. ПРЫХОДЗЬКА заклікаў рэдакцыю *смялей адстойваць творы, якія* адпавядаюць духу часу.**

З дакладам «Прапаганда мастацкай літаратуры: вопыт. праблемы, задачы» на сходзе выступіў **А. Жук.**

У свой час для выпуску кніг і іх прапаганды быў створаны Дзяржкамвыд. Усё было распісана так, што лепш і ўявіць цяжка. На жаль, у гэтай ідэальнай пабудове не ўсё склалася ў адпаведнасці з задумай. І найбольш—у справе прапаганды і распаўсюджання кнігі. З нейкага часу на першае месца выйшла не ідэйна - мастацкая вартасць кнігі, не значэнне яе як магутнейшага ідэалагічнага сродку. Гэта бачыцца бы і мелася на ўвазе, але не ўлічвалася пры падвядзенні вынікаў. Падлічвалася колькасць лістоўадбіткаў і прыбытак, які цяпер вымяраецца мільёнамі. З'явіліся так званыя прыбытковыя выданні, на якія хапала паперы і ў неспрыяльныя гады.

**Праўда, па інерцыі работнікі гандлю нейкі час і на беларускую кнігу, у прыватнасці на прозу, ставілі заказы па 20, 40, 60 тысяч экземпляраў. Але потым прыгледзеліся, што іх заказы выдавецтвы выконваюць на трэць, а то і меней. Выдавецтвам жа прасцей і эканамічней стала запускаць адну кнігу масавым тыражом, чым два-тры тыя самыя 20—40-тысячнікі. Неўзабаве і гандлёвыя работнікі пераканаліся, што можна абысціся без лішняга клопату, выконваючы план рускамоўнымі выданнямі і не звяртаючы ўвагі на беларускія «малатыражкі». Літаральна за нейкія восем гадоў тыражы беларускай кнігі скараціліся да мінімуму, і адносіны да яе склаліся як да непатрэбнага давеску.**

**Да чаго прывялі фінансавыя гонкі, можна ўявіць з такога параўнання. «Мастацкая літаратура» за мінулы год дала чыстага прыбытку 11 мільёнаў рублёў, маючы ў плане каля 170 пазіцый. «Советский писатель» даў, здаецца, 13 мільёнаў рублёў, маючы ў плане 470 пазіцый. І яшчэ. Па назвах у «Мастацкай літаратуры» больш за 80 працэнтаў беларускіх кніг, па аб'ёме ж беларускамоўная кніга займае ўсяго нейкіх пяць працэнтаў.**

Кнігі сур'ёзна не рэкламуюцца (аб'явы ў газетах язык не паварочваецца назваць рэкламай), хоць існуе сістэма рэспубліканскага ўпраўлення кніжнага гандлю і абласных упраўленняў. Пад знакам надання выдавецтвам большай самастойнасці адказнасць і за рэкламу, і за збыт перакладзена таксама на плечы выдаўцоў. Але ж у свой час, цэнтралізуючы справу гандлю і прапаганду кнігі, у выдавецтваў пазабіралі і штатныя адзінкі, і сродкі, абагулілі іх. Дык ці не заканамерна цяпер вярнуць выдавецтвам і тыя штатныя адзінкі і, можа, пашырыць іх, пакінуўшы за кнігагандлёвымі ўпраўленнямі штаты і сродкі, якія забяспечваюць матэрыяльны, тэхнічны бок кнігагандлёвага працэсу?

А. Жук кінуў таксама папрок за нездавальняючую прапаганду беларускай кнігі таварыству кнігалюбаў: што можна зрабіць, калі многія ў таварыстве не ўмеюць ні чытаць, ні гаварыць па-беларуску і не лічаць патрэбным вучыцца гэтаму? Лепш павінна займацца прапагандай і рэкламай і Беларускае аддзяленне УААП, друк, радыё і тэлебачанне. Прамоўца закрануў і некаторыя пытанні, у прыватнасці, аб перадачы выдавецтва «Мастацкая літаратура» Саюзу пісьменнікаў БССР.

Пра тое, што робіцца выдавецтвам «Мастацкая літаратура» па прапагандзе і распаўсюджанні беларускай кнігі падрабязна гаварыў яго дырэктар **В. Грышановіч**. У прыватнасці, бярэцца шэфства над школамі, якія носяць імёны вядомых беларускіх пісьменнікаў. В. Грышановіч выказаў занепакоенасць тым, што многія школьныя бібліятэкі слаба папаўняюцца навінкамі.

**Э. Ялугін** зазначыў, што папулярызацыя нашай літаратуры залежыць у значнай ступені ад становішча беларускай мовы. Ён выказаў прапанову выдаваць у першую чаргу надзённыя творы паэзіі і прозы. **В. Іпатава** расказала аб тым, што робіць па прапагандзе беларускай кнігі тэлебачанне. **В. Супрунчук** на прыкладах з газет «Звязда», «Советская Белоруссия», «Вячэрні Мінск» і іншых паказаў, што гэтыя выданні слаба прапагандуюць кнігу: рэдка з'яўляюцца рэцэнзіі на новыя выданні, мала змяшчаецца гутарак з пісьменнікамі, у той час як шмат месца займаюць перадрукі з саюзных газет. Пытанні аператыўнага рэцэнзавання знайшлі сваё адлюстраванне і ў выступленнях **В. Хомчанкі, Г. Марчука.** Г. Марчук крытыкаваў рэдакцыі літаратурных выданняў за тое, што рэдка даюць творчыя партрэты пісьменнікаў.

**Аб прапагандзе беларускай кнігі гаварыла прадавец віцебскага магазіна «Светач» В. ТЫЛЕЦ, закрануўшы шматлікія аспекты ўзаемаадносін выдаўцоў і работнікаў кнігарань, пісьменнікаў і чытачоў. Куды лепшага, гаварыла яна, пакідаюць жадаць выступленні пісьменнікаў па лініі Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР, мала што гавораць чытачу выдавецкія анатацыі, якія пішуцца па адным шаблоне, рэдка выходзяць рэкламныя лісткі, праспекты. Ды і коштам сваім кнігі часта «кусаюцца». Напрыклад, трохтомная «Анталогія беларускай паэзіі» будзе каштаваць каля дзевяці рублёў. Наўрад ці многія аматары літаратуры змогуць у такім выпадку набыць гэтае патрэбнае выданне.**

**Не вельмі высокае ўражанне ад выступленняў некаторых пісьменнікаў па лініі бюро прызнаў і намеснік дырэктара Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР Г. ДЗМІТРЫЕЎ. Хоць, сказаў ён, дзе тая інстанцыя, якая можа ацаніць вартасць таго ці іншага выступлення?**

**Старшы кансультант Беларускага аддзялення УААП Б. БАТАЛАЎ закрануў шэраг пытанняў, звязаных з выхадам беларускай кнігі за мяжу.**

**У выступленнях М. СКРЫПКІ, С. ШУШКЕВІЧА, І. ШАЛЬМАНАВА, В. ДАЙЛІДЫ, У. ФЕДАСЕЕНКІ і М. ТАТУРА ацэньвалася становішча, якое склалася ў *Бюро прапаганды мастацкай літаратуры*, гаварылася пра атмасферу ў Саюзе пісьменнікаў.**

У пастанове, прынятай на сходзе, намечаны меры па паляпшэнні прапаганды і распаўсюджання беларускай кнігі, павышэнні ідэйна - мастацкага ўзроўню твораў і актывізацыі дзейнасці пісьменнікаў - камуністаў у справе перабудовы.

**Як толькі ў сакавіцкім небе з'яўляюцца першыя светла-блакітныя «вымоіны», а наздраваты снег каля тратуараў пад сонцам пачынае асядаць, я збіраюся ў вёску...**

Міхась ДАНІЛЕНКА

# ІВАНЫ ДЫ МАР'І...

ВЁСКА называецца Багатая Града. Працягнулася яна доўгай вуліцай паўз былое балота «Баравое», дзе ў першыя гады пасля вайны ўручную рэзалі торф. Цяпер таго месца не пазнаць. Жыта ці рапс, якое сее мясцовы калгас «Дружба», тут расце, бы той чарот, а над кветачкамі рапсу дзелавіта звіняць пчолы. Адразу ж за Багатай Градой цямнее лес. Цвіце медуніца, восенню зацвітае верас. Грыбны пах лунае пад высокімі соснамі, у густых бярэзніках. Ад вёскі да раённага цэнтра Лоеў кіламетраў трыццаць. Але перш трэба дабрацца да вёскі Каўпень — цэнтра калгаса. Адтуль паласа шашы бяжыць да раённага гарадка. Увосень і зімой дабрацца цяжка — дарога ўся на выбоінах, занесена снегам. Вёску даўно залічылі ў неперспектыўныя і пра яе лёс ніхто не клапоціцца.

Я жыву тут вось ужо пяць гадоў.

## ТРАКТАРЫ ТРОЯЦЬ СЛЕД

Як толькі я атабарыўся ў сваім доме, да мяне вясной завітаў блізкі сусед Пятро Башмак. Прынёс слоік квашанай капусты, у якой чырванелі крупінкі журавін, і бутэльку першака (тады Башмакова жонка яшчэ не вельмі апасалася гнаць самагон).

— Пасядзім трохі, суседзе, — прапанаваў ён. — Табе калі вада спатрэбіцца, прыходзь да майго калодзежа. Я выкапаў глыбокі. Апошняе бетоннае «кальцо» ледзь асадзіў сваім «Беларусам» з прычэпам.

Мы пасядзелі за сталом. Я пахваліў дробна нашынкаваную капусту (сапраўды, яго Маша была майстрыца ў Багатай Градзе — расціць гародніну, закладваць на зіму капусту).

Пятро — звеннявы механізаванага звяна. Ледзь толькі электрычнае святло з акон пачне прабіваць перадсвітальны змрок, а ля яго двара ўжо падае голас «пускач». Потым даносіцца раўнамерны грукат матора. З туга напакаванай кірзавай сумкай і вялікім тэрмасам (у яго Пятро набірае халодную ваду з уласнага калодзежа) ён едзе на працу ў Каўпень. На цалюткі дзень. Узорвае глебу, вывозіць на палі ўгнаенні. А потым, калі зазеляняюць рады бульбяных каліў, акучвае расліны. Шчыруе, як кажуць, ад цямна да цямна. Летам, калі дзень большы, прыганяе трактар раней і ставіць непадалёк ад хаты пад грушай-дзічкай.

Сваю хату Пятро складаваў, а потым абшаляваў уласнымі рукамі. Пасадзіў пад вокнамі, у палісадніку, арэхавае дрэўца. Некалі прынёс некалькі саджанцаў грэцкага арэху адзін рабочы лясніцтва. Даўно памёр той рабочы, а арэх раскінуў шырока галіны. Вясной на ім паяўляюцца на гронках суквеццяў доўгія зялёныя «завушнічкі». Яны пасля адпадуць, а завяжуцца грэцкія арэхі. Шкада, што не выспяваюць. Як дзьмухне восеньскі сівер, счарнелыя недаспелыя плады валяюцца паблізу палісадніка.

У двары Башмака па дроце ўецца вінаград. Восенню, калі сонца ўжо скупа кідае промні з неба, Маша зразае ў вядро гронкі сакавітых ягад. Яна і нас частавала. Вядома, вінаград не такі, як, скажам, вырашчаны на схілах пагоркаў дзе-небудзь у Абхазіі, але прыемны на смак і не дужа кіслы.

Да двухсот цэнтнераў накопвае восенню Пятро бульбы з гектара. І наогул у працы малайчына. Праўда, часам не вытрымлівае яго натура, калі бачыць, што зроблена не па справядлівасці.

Аднойчы рашыў паслаць яго старшыня на ўчастак іншага звеннявога. А ўчастак той парос бур'яном, пустазеллем. Быльнёг такі, што не відаць радоў.

— Не паеду! — заўпарціўся Башмак. — Няхай сам і ўбірае тое, што вырасціў.

Старшыня Васіль Аляксеевіч Кугуенка — чалавек вытрыманы, а тут чамусьці загарачыўся. Раскрычаўся, прыгразіў, што ссадзіць Пятра з трактара. Той плюнуў і выскачыў з кабіны «Беларуса».

— Згары ты са сваім участкам! — плюнуў ён і пакрочыў, умінаючы зямлю ў кірзачах у напрамку Багатай Грады. Быццам наплявалі яму ў душу. Якраз жа ў тыя дні лічба накапанай ім бульбы пераваліла на другую тысячу тон. Спадзяваўся пачуць ад старшыні добрае слова, а тут на табе — лаянка...

Вядома, канфлікт той не доўга трымаўся ў Башмаковай памяці. Пасля гаварыў, што і сам празмерна пагарачыўся. У старшыні ж клопатаў куды больш, чым у яго. І галава ў таго баліць не толькі з-за аднаго якога-небудзь участка.

...У самым канцы Багатай Грады за шчыльнай дашчанай агароджай стаіць дом яшчэ аднаго трактарыста — Анатоля Цімошчанкі. Ён жыве з жонкай Марусяй і цешчай. Іх клічуць чамусьці Сінцамі. «Вунь, — кажуць, — паехаў Толік Сінцоў сваім трактарам пракладваць дарогу ў Каўпень». Не так даўно Анатоль аддаў замуж адзіную дачку, якая рабіла настаўніцай у далёкай дняпроўскай вёсцы Бывалькі. Вяселле ладзіў у садзе. Са свежа напілаваных на пілараме сасновых дошак збіў сталы. На ўбітыя слупы нацягнулі цэлафан, — гэта, каб дождж не перашкодзіў святу. На тым вяселлі многія былі. Ну, і, вядома ж, Пятро Башмак са сваёй Машай. Дарэчы, у вёсцы шмат Марый і шмат Іванаў. Расказваюць, што ў адной сям'і было тры сястры і з іх дзве — Марыі. Адну клікалі Марыя вялікая, другую Марыя маленькая. Мусіць, не надта зазіраў лоеўскі поп ў святцы, ці фантазія на імёны ў бацькоў была абмежаванай...

У Цімошчанкі — таксама трактар «Беларусь». І калі заканчваецца яго доўгі працоўны дзень, ён прыганяе яго з прычэпам ад Каўпені да сваёй хаты на канцы вуліцы. Аднойчы я пацікавіўся ў Башмака: ці не выгадней прывозіць і адвозіць трактарыстаў машынай, чым паліць гаручае і па бездаражы ганяць трактары за восем кіламетраў у адзін канец?

Пятро хітравата прыжмурыўся, хмыкнуў і адказаў няпэўна:

— Мусіць, нявыгадна, калі так лічаць.

Між іншым, у вёсцы ёсць яшчэ адзін чалавек, які мае дачыненне так ці інакш да механізацыі. — Васіль Лысянок. Раней ездзіў ён на бензавозе. Цяпер на калгаснай аўтамашыне адвозіць восенню і зімой школьнікаў старэйшых класаў у сярэднюю школу (у Каўпені — васьмігодка). Вядома ж, і Цімошчанку і Башмаку выгадней, каб трактар у любы час стаяў перад сваім домам. Летні дзень доўгі, і хлопцы дома паспеюць на прычэпах падкінуць сабе і сена і дроў.

Толік Цімошчанка, чалавек зусім малады, таксама на добрым рахунку. Член парткома. Таксама звеннявы па вырошчванні бульбы. Дабіваецца выдатных вынікаў у працы. Думаецца, гэта дзякуючы і яму гаспадарка не раз узнагароджвалася пераходным сцягам ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР і ЦК камсамола краіны. Прыкметны ён торыць у гаспадарцы след.

Што ж да Лысянка Васіля, дык ён сыноў, лічы, вырасціў. Аднаму купіў дом у Лоеве, і Саша часцяком прывозіць у вёску на аўтамашыне балоны са звадкаваным газам. Хлопец вясёлы і шчыры, ён не раз прывозіў такія балоны і мне. А другі ўладкаваўся ў міліцыі ў Гомелі. Ловіць спекулянтаў і махляроў на гомельскім Цэнтральным рынку. А як прыедзе ў вёску, дык расказвае бясконцыя гісторыі пра тое, якая ён граза...

## ВАЛІК, ВАЛЯНЦІН ІВАНАВІЧ

Бліжнім маім суседам — сцяжынкай прайсці цераз сад — лічыцца Валянцін Іванавіч Кульгавы. Ёсць такі тып людзей, якіх і да глыбокай старасці ніхто не называе па імю і па бацьку. Так і Кульгавага называюць — Валікам. А чалавеку ўжо да пенсіі засталося гадоў з пяць...

Была некалі ў Валіка густая чарнявая кучаравая чупрына. Але з гадамі парадзелі кучары. Першы прымаразак часу і жыццёвых клопатаў пасерабрыў скроні і валасы. Летам Кульгавы ходзіць за цялухамі з доўгім бізуном, а зімой ездзіць на коні на ферму даглядаць кароў. Не адну пару кірзачоў стаптаў чалавек, тупаючы следам за порсткімі цялухамі. Налаўчыўся пераймаць іх, калі ў гарачыню, наставіўшы праўцом хвасты, тыя імчаць у алешнік ад бзыкаў. Будучы ўжо дзедам (у яго пяцёра ўнукаў), Валік летам любіць паказваць, як ён карае... аваднёў. Ён лоўка хапае авадня, замазвае таму вочы гразёю і выпускае з далоні. З цяжкім гудам, як бамбавоз, авадзень цягне ўвысь — проста да сонца: вочы ж яго не бачаць...

Пазней Валіку выдзелілі каня. Ён зацягваў на ім аблезлае сядло (каб ямчэй было сядзець, на конскую спіну ўладкоўваў парваную ватоўку), устаўляў ногі, абутыя ў кеды, у страмёны і гойсаў перад статкам.

Аднойчы на дзень нараджэння нявестка Таня (яна ў суседнім саўгасе робіць заатэхнікам) падарыла Валіку прасценькі, на батарэйках, прыёмнічак. Колькі дзён Кульгавы вазіў яго з сабою за цялухамі на вузенькім раменьчыку. Пакручваў ручкі і ўважліва ўслухоўваўся ў шматгалоссе, у вялізны свет, які спяваў, іграў, крычаў разнамоўнымі галасамі. А потым прыёмнічак сапсаваўся. Валік закінуў яго на шафу.

— Мала там рознага ламачча, — бурчэла на мужа жонка Маша. — Выкінуў бы на сметнік.

— Прыедзе швагер з Гомеля, аддам — адрамантуе, — бесклапотна адмахваўся ад жонкі Валік.

Валікава Маша ўжо некалькі гадоў на пенсіі. Прыставаў у прымы да яе Валік у цяжкія пасляваенныя гады. Яна была значна старэй за яго. А потым, як падышлі гады, што трэба было збірацца на пенсію, Маша папасвіла разам з Валікам цялят год на вакольных пожнях. Цяпер валюхаецца па гаспадарцы: корміць свіней, гусей. Выгадавалі і другую карову. Яе адвялі з мужам да малодшай дачкі, што працуе ў дзіцячым садзе ў суседнім саўгасе.

Кульгавы таксама робіць амаль усё сваімі рукамі. Пабудаваў сабе хлявы, зрабіў прыгрэбак, лазню. Але, калі шчыра прызнацца, дык умельства ў тым адчуваецца мала. Прыкладзе чалавек рукі, а потым кіне ўсё: абрыдла. Пра такіх у народзе кажуць: цяп-ляп і — гатова. У лазні ў падлозе — шырачэнныя шчыліны. Спачатку Кульгавы рашыў скласці ў ёй сцены з тэлеграфных слупоў, якіх шмат было, калі іх замянялі на новыя.

— Ці ж ты ўлежыш на тым палку, калі шыбане парай? — адгаворвалі яго. — Кожны ж слуп прасмолены.

— І то праўда, — пагадзіўся Валік.

Сцены склаў з сасновых бёрнаў. Дах пакрыў шыферам. А цэментавую трубу, што з даху вытыркалася замест коміна, накрыў старым вядром без дна. (Аднойчы агонь з печы, складзенай Валікавымі рукамі, шугануў так, што гаспадар не на жарт перапалохаўся: лазенька вось-вось зоймецца полымем).

Можна лічыць, што Валянцін Іванавіч Кульгавы — патомны жывёлавод. Калгас не раз узнагароджваў яго за сумленную працу каштоўнымі падарункамі (прыгожы круглы гадзіннік на батарэйках трэці год чакае на сцяне пярэдняга ад вуліцы пакоя). Давалі яму і адрэзы на касцюмы і кашулі. Раней прыязджаў у Гомель з юбілейным Ленінскім медалём на лацкане пінжака.

Часта Валік разважае аб тым, як на нашых вачах гіне многае жывое.

— На маёй жа памяці, — гарачыцца, быццам хто яму пярэчыць, — у нас вяліся і баравыя саракапуты, і сіваваронкі, і круташыйкі, і пустальгі... А ці бачыў ты за апошнія гады хоць адну пустальгу?

— Я толькі раз ці два коршуна ўбачыў, — прызнаўся я.

— Ластавак амаль няма, толькі вераб'ям хімія не шкодзіць...

Кульгавы — незамянімы чалавек для вёскі. З трыццаці хат (шмат якія з іх пустуюць) толькі ўпамянутыя ды яшчэ два Іваны-леснікі ды адзін паштальён працуюць. Астатнія — на пенсіі, ці проста — адзінокія жанчыны. Калі прывязе, скажам, аўтакрама ў мяшках муку ці крупы, дык, акрамя Валіка, няма каму згрузіць тую муку якой удавіцы.



Вясна. Абуджэнне зямлі. Фотаэцюд А. КЛЕШЧУКА.

(Заканчэнне на стар. 14).

**ТВОРЧЫЯ САЮЗЫ: ВОПЫТ, ПРАКТЫКА, ПЕРСПЕКТЫВЫ**

# ...І асяродкам культуры

**З рэспубліканскага семінара кіраўнікоў літаратурных аб'яднанняў**

БОЛЬШ чым 50 кіраўнікоў літаратурных аб'яднанняў пры рэдакцыях абласных, гарадскіх, раённых аб'яднаных і шматтыражных газет сабраліся 24 сакавіка ў Доме літаратара на рэспубліканскі семінар. Сабраліся тыя, хто кіруюць літаратурнай вучобай пачаткоўцаў,—каб падвучыцца самім: гэта значыць, паслухаць парады прафесійных літаратараў, абмяняцца думкамі, пагаварыць пра надзённыя, набалелыя пытанні, сумесна нараіцца, што трэба, каб літаб'яднанні сталі не толькі школай літвучобы, а асяродкам прапаганды роднай мовы, нацыянальнай культуры, дапамагалі духоўнаму станаўленню асобы, яе фарміраванню.

Адкрываючы семінар, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР **В. Зуёнак** адзначыў, што апошнім часам замарудзіўся прыток маладых сіл у літаратуру, што сярод пачаткоўцаў няшмат яркіх талентаў, што павялічыўся ўзрост аўтараў першых кніжак. Творчай актывізацыі моладзі спрыяе атмасфера перабудовы. Пацвярджэнне гэтага — так званыя нефармальныя аб'яднанні, жаданне юнакоў і дзяўчат прымаць удзел у важных справах, што адбываюцца сёння.

Адкрываць таленты—значыць перш за ўсё шукаць іх, працягваў В. Зуёнак. У якасці прыкладу ён спаслаўся на вопыт Ігрушкаўскай школы Крупскага раёна, дзе з поспехам прайшоў тыдзень, прысвечаны роднай Беларусі, праводзіліся дні мовы, літаратуры, гісторыі, геаграфіі. Гэта пашырыла кругагляд дзяцей, садзейнічала фарміраванню іх высокіх эстэтычных густаў.

Для выхавання творчай моладзі ўсё ж вельмі шмат значаць літаб'яднанні. У іх, сказаў В. Зуёнак, рэзерв нашай літаратуры, яны — своеасаблівыя памочнікі Саюза пісьменнікаў БССР у прапагандзе роднай літаратуры. На жаль, пакуль што не ўсюды да літаб'яднанняў ставяцца з належнай увагай. Больш павінны і могуць зрабіць рэдакцыі абласных, раённых, гарадскіх і аб'яднаных газет, на старонках якіх пачынаючыя аўтары друкуюць свае першыя творы. На жаль, далёка не ўсе з іх вядуць з аўтарамі пастаянную работу, не ўсе рэгулярна публікуюць літаратурныя старонкі.

Гаварыў В. Зуёнак і пра ўзроставы склад літаб'яднанняў. У іх яднаецца пераважна моладзь, але ёсць і людзі немаладога, нават пажылога ўзросту. Відаць, неабходна часцей практыкаваць сустрэчы старэйшых членаў аб'яднанняў са школьнікамі, яны, такія сустрэчы, паспрыяюць выхаванню ў дзяцей любві да літаратуры не менш, чым выпадковыя заезды пісьменнікаў. Трэба дбаць і аб тым, каб маладыя аўтары, якія жывуць на перыферыі, маглі часцей сустракацца з чытачамі і ў друку. На думку В. Зуёнка, у гэтым кірунку нядрэнна ідуць справы на Гродзеншчыне, дзе падрыхтаваны і выпушчаны выдавецтвам «Мастацкая літаратура» калектыўны зборнік «Край мой, Нёман». Такі ж зборнік рыхтуюць і магіляўчане. Варта выкарыстаць гэты вопыт і ў іншых абласцях. Робяцца захады, каб такія кнігі выдаваць там жа, у абласцях.

Акрамя гэтага, прамоўца гаварыў таксама аб дзейнасці камісіі па рабоце з маладымі, аб стварэнні неабходных умоў для развіцця і станаўлення творчай змены.

Тое, што праблемы работы літаб'яднанняў хвалююць многіх, засведчыла выступленне **В. Аколавай.** Яна, спасылаючыся на свой вопыт літкансультанта «Знамени юности», выказала меркаванне, што Саюз пісьменнікаў рэспублікі павінен больш уважліва ставіцца да найбольш здольных членаў літаб'яднанняў, не выпускаць з-пад увагі тых, хто ўжо мае кнігі (часам і не адну), прымаць іх у творчы саюз.

Думку В. Зуёнка аб тым, што марудна сталее творчая моладзь, што малы прыток у літаратуру маладых літаратурных сіл, падтрымаў **В. Ярац** (Гомель). Трывожыць слабае веданне студэнтамі роднай мовы. Прычына — у школе. Яшчэ не так даўно паўсюдна ў іх працавалі літгурткі, выпускаліся літаратурныя насценныя газеты. Цяпер гэтая справа занядбана, настаўнікі спасылаюцца на занятасць.

Школа вінавата, што дзеці слаба ведаюць мову, гісторыю краю, але ж вінаваты і ўсе мы, сказаў **А. Малюк** (Мазыр). У сям'і пачынаецца выхаванне дзіцяці, у сям'і і вытокі яго любові да ўсяго роднага, блізкага. А што веданне роднай мовы недастатковае, дык гэта відавочна, заўважыў прамоўца. Мала хто са студэнтаў Мазырскага педагагічнага інстытута імя Н. К. Крупскай, дзе ён працуе, можа добра гаварыць па-беларуску. На прапанову выкладчыка ніхто з будучых педагогаў не змог успомніць і запісаць калыханку.

Тым не менш, ёсць у рэспубліцы школы, дзе з ранніх гадоў дзецям па-сапраўднаму прывіваецца любоў да роднага слова, матчынай песні. **Ф. Іллюкевіч** (ён кіруе літаратурным аб'яднаннем пры Янавіцкай школе Клецкага раёна) расказаў, што ўжо другі год 27 яго вучняў сябруюць з літаратурай, спрабуюць самі пісаць вершы, загадкі. Дабратворна ўплываюць тут на дзяцей сустрэчы з пісьменнікамі. Пасля выступлення ў школе У. Ліпскага і А. Вольскага літаральна на другі дзень хлопчыкі і дзяўчынкі прынеслі свайму настаўніку дзесяткі новых твораў.

Плённа працуе на Глушчыне школьнае літаб'яднанне «Званок» — пра яго работу расказаў **В. Лаўрыновіч.** Аб сваёй рабоце з дзецьмі гаварыў **А. Бібіцкі,** які працуе на Піншчыне.

Дзелячыся вопытам работы літаратурным кансультантам «Чырвонай змены», **Р. Баравікова** з сумам канстатавала, што ў гарадскіх школах рэспублікі дзеці амаль не спрабуюць пісаць па-беларуску. Некалькі месяцаў назад «Чырвонка» паспрабавала наладзіць рэгулярны выпуск творчасці школьных літгурткоў, але ініцыятыва захліпнулася — літгурткі мала дзе працуюць. Увогуле, заўважыла Р. Баравікова, вучні слаба ведаюць літаратуру. У лепшым выпадку адно могуць назваць прозвішчы Купалы, Коласа, Танка, Брыля...

Інакшая карціна ў Рагачове. Як расказаў **М. Янчанка,** там у школах створаны юнкораўскія пасты. Юныя карэспандэнты спачатку спрабуюць свае творчыя сілы, пішучы заметкі і допісы, а потым сёй-той пераходзіць і да мастацкіх твораў. Прыйшлі тут і на дапамогу выхавацелькам дзіцячых садзікаў: рэдакцыя газеты «Камунар» друкуе спецыяльную старонку з творамі членаў свайго літаб'яднання.

Цікавы вопыт работы літаб'яднання пры наваполацкім «Химике», пра што расказаў **У. Арлоў.** Маладыя літаратары дбаюць аб тым, каб далучыць да роднай літаратуры як мага больш людзей, прапагандуюць нацыянальную гісторыю, актыўна змагаюцца з негатыўнымі з'явамі ў жыцці. Не без іх турбот створаны ў адной са школ першы беларускі клас, пачынаюць працаваць і курсы па беларускай мове і гісторыі. Члены літаб'яднання змагаюцца за экалагічную чысціню роднага горада, выступаюць ініцыятарамі іншых добрых спраў. У Глыбокім, зазначыў **А. Жыгуноў,** літпачаткоўцы робяць захады, каб надаць вуліцам імёны знакамітых землякоў. У Бялынічах, нагадаў **В. Хаўратовіч,** традыцыйнымі сталі сустрэчы членаў літаб'яднання са школьнікамі, выхаванцамі дзіцячых садоў. Нямала добрых спраў на рахунках Слуцкага, Драгічынскага, Клімавіцкага літаб'яднанняў, аб чым гаварылі іх кіраўнікі **К. Цыбульскі, М. Трафімчук, М. Мінчанка.** У Баранавічах, як сказаў рэдактар адной з гарадскіх шматтыражак **А. Белы,** вырашылі стварыць для ўзнагароджання лепшых пачаткоўцаў спецыяльную прэмію, якая будзе насіць імя Паўлюка Багрыма.

Аб розных аспектах работы літаб'яднанняў, далучэння моладзі да нацыянальнай літаратуры, культуры гаварылі на семінары **В. Вераб'ёва** (Магілёў), **В. Куртаніч, А. Сыс** (Мінск), **М. Барэйша** (Наваполацк) і іншыя.

Намеснік старшыні камісіі па рабоце з маладымі аўтарамі СП БССР, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» **Г. Далідовіч** расказаў аб рабоце камісіі, аб тым, якія захады прымаюцца ў «Маладосці», каб паскорыць друкаванне твораў маладых пісьменнікаў, аб «Бібліятэцы «Маладосці», што пачынае выходзіць з ліпеня сёлетняга года.

Сакратар Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР **А. Салтук,** як і многія іншыя прамоўцы, падкрэсліў неабходнасць таго, каб літаратурныя аб'яднанні ператвараліся ў сапраўдныя асяродкі культуры. Многае залежыць ад актыўнасці, дзелавітасці яго членаў, ад жадання займацца не толькі творчымі справамі, але і весці арганізатарскую работу, выхоўваць маладыя таленты. У. Папковіч, напрыклад, у адной з віцебскіх школ арганізаваў для вучняў старэйшых класаў факультатыў па беларускай літаратуры. А. Салтук прапанаваў Саюзу пісьменнікаў рэспублікі сумесна з Саюзам журналістаў БССР правесці конкурс на лепшае асвятленне рэдакцыямі абласных, раённых, гарадскіх, аб'яднаных і шматтыражных газет літаратурнага жыцця вобласці, горада, раёна.

Нямала робіцца па далучэнні моладзі да беларускай мовы і літаратуры і ў Гродне, зазначыў сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі **А. Карпюк.** Ён спаслаўся на вопыт работы аб'яднання «Паходня», паведаміў, што рыхтуецца чарговы выпуск зборніка, у якім, як і ў першым, будуць змешчаны творы мясцовых аўтараў.

Аб рабоце выдавецтва «Юнацтва» з маладымі аўтарамі расказаў галоўны рэдактар выдавецтва **Я. Каршукоў.**

«Маладняк», «Узвышша» — за гэтымі і іншымі літаратурнымі аб'яднаннямі гісторыя нашай літаратуры, гаварыў кіраўнік літаратурнага аб'яднання «Узлёт» пры Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна **А. Лойка.** Сённяшнія літаб'яднанні... Людзі там розныя, адны прыйдуць у вялікую літаратуру, другія застануцца аматарамі. Але гэта ўсё ж свайго роду святліца, адкуль выходзяць і дзе застаюцца людзі, якія па-сапраўднаму любяць родную мову і літаратуру.

Загадчык сектара аддзела культуры ЦК ЛКСМБ **К. Далідовіч** зазначыла, што юнакі і дзяўчаты з захапленнем сустракаюць выступленні любімых рок-груп, напрыклад, «Мроя», якія выступаюць па-беларуску. Каму, як не пісьменнікам, творчай моладзі, пісаць для такіх груп свае творы? Яна ж выказала пажаданне, каб наша тэлебачанне не забывалася на свае традыцыі і практыкавала выступленні-справаздачы літаб'яднанняў на экране.

Вынікі гаворкі падвёў першы сакратар праўлення СП БССР **Н. Гілевіч.** Размова, якая адбылася сёння, сказаў ён, усцешыла тым, што кожны, хто выступіў, заклапочана гаварыў пра стан роднай літаратуры. Гэта аднак не значыць, што ўсё зробіцца само па сабе, хоць і прымаюцца ў апошні час важныя захады. Якраз сёння і патрабуецца ад кожнага з нас вялікая работа. Літаратура без будучыні, без веры існаваць не можа.

У рабоце семінара прыняў удзел і выступіў з прамовай загадчык сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ **А. І. Бутэвіч.**

**Наш кар.**

**ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР**

## БУДЗЕМ ЗНАЁМЫ: «БІБЛІЯТЭКА ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ»

**Нядаўна прынята рашэнне аб выданні з 1 ліпеня сёлетняга года дадатку да літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага ілюстраванага часопіса «Маладосць» — органа ЦК ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР. Называцца ён будзе «Бібліятэка часопіса «Маладосць».**

**Наш карэспандэнт звярнуўся да галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» Анатоля ГРАЧАНІКАВА з просьбай расказаць пра выданне, якое даўно чакалі і маладыя аўтары, і маладыя чытачы.**

— Знешне кніжкі маладосцеўскага дадатку будуць нагадваць знаёмую многім «Библиотеку журнала ЦК ВЛКСМ «Молодая гвардия». Такі ж фармат, мяккая вокладка. Перыядычнасць будзе раз у месяц, 12 зборнікаў у год. Мяркуецца выпускаць пяць кніг прозы, аб'ём кожнай да 5 уліковa-выдавецкіх аркушаў, пяць зборнікаў паэзіі, аб'ёмам кожны па 2 аркушы. І — па адной чатырохаркушнай кніжцы публіцыстыкі і крытыкі. Дадам, што прымаюцца арыгінальныя творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся, а кніжка «Бібліятэкі...» будзе лічыцца часопіснай публікацыяй. Будзем таксама знаёміць чытачоў і з лепшымі здабыткамі маладых літаратур братніх народаў. Зразумела, перакладчыкамі будуць выступаць маладыя аўтары. Дарэчы, «Бібліятэка...» — гэта ў першую чаргу кнігі маладых і для маладых. Па такім жа прынцыпе будзем падбіраць і аўтараў аднаактовых п'ес, скетчаў, гумарэсак, літаратурных фельетонаў... Падобныя зборнікі — спадзяёмся — акажуць немалую падмогу ў паўсядзённай рабоце кіраўнікам і ўдзельнікам мастацкай самадзейнасці.

І, вядома, чакаем таленавітых рукапісаў, аўтары якіх раскажуць пра «белыя плямы» нашай гісторыі пакуль што мала даследаваныя. А зацікаўленасць чытача гістарычным мінулым, лёсам нашых знакамітых людзей, якія доўгія часы былі ў забыцці, вялікая.

Першыя кніжкі «Бібліятэкі...» ужо рыхтуюцца, хоць рабіць гэта не так і проста. Цяжкасці найперш звязаны з тым, што выдавецкі «цягнік» ідзе на поўнай хуткасці, а нам неабходна ў свой «вагон» ускочыць, што называецца, на хаду. У гэтай справе шмат дапамагаюць нам дырэктар выдавецтва ЦК КПБ Б. Кутавы, намеснік дырэктара Д. Навіцкі, начальнік аднаго з цэхаў Л. Тэўш. Адчуваем падтрымку і з боку СП БССР, ЦК ЛКСМБ.

Першыя дзве кніжкі будуць калектыўныя. Адна аддаецца паэзіі, другая — прозе. Аўтары іх — нашы найбольш даравітыя маладыя паэты і празаікі, большасць з якіх друкаваліся ўжо, у іншых публікацыі на падыходзе. Мяркуйце самі, у паэтычнай кніжцы будуць прадстаўлены С. Адамовіч, Е. Акулін, Ю. Бармута, Х. Кашкурэвіч, Ю. Кісялеўскі, С. Корсак, Ю. Пацюпа; празаічны зборнік складаецца з твораў С. Дубаўца, А. Глобуса, М. Клімковіча, А. Наварыча, У. Сіўчыкава, У. Сцяпана, А. Федарэнкі, М. Шайбака. Рукапісы кніжак прапанавалі паэты Л. Галубовіч, Г. Булыка, А. Зэкаў, А. Сыс, П. Шруб, В. Сахарчук, А. Дэбіш, празаікі —У. Ягоўдзік, З. Падбярэзскі, У. Цвяткоў, Р. Аўраменка і іншыя аўтары.

Распаўсюджвацца «Бібліятэка...» будзе як па падпісцы, якая прымаецца без абмежаванняў ва ўсіх аддзяленнях сувязі, так і ў розніцу, праз кіёскі «Саюздруку». Для тых, хто жадае падпісацца на «Бібліятэку...», нагадваю яе індэкс—74821. Падпісная цана на год 3 рублі 40 капеек, на паўгода—1 рубель 70 капеек. Выпісаць «Бібліятэку...» можна як разам з часопісам «Маладосць», так і без яго.

# Смех—лякарства ад застою

Вядзьмак Лысагорскі. Сказ пра Лысую Гару. Бібліятэка «Вожыка». Мінск, Выдавецтва ЦК КПБ, 1988 г.

«Сказ пра Лысую Гару» пасля доўгага рукапіснага блукання выбіўся ў свет. Паэму Ведзьмака Лысагорскага пасведчыў сваёй фірмай калючы і зычлівы «Вожык», і адно з высокіх выдавецтваў—ЦК КПБ—«цісканула» твор ніштаватым, звыш трыццаці тысяч, тыражом. У Мінску кніжачку тут жа разабралі.

Праўда, адзін з маіх прыяцеляў, песіміст па натуры, спрабаваў астудзіць маё ўзрушэнне легалізаваным шэсцем ананімнай паэмы. Дачасная, маўляў, радасць. Пісьменнікаў беларускіх асмейваюць: глядзіце, людзі, хто павінен у застоі нацыянальнай культуры, у занядбанні слова роднага. То ж яны, лысагорцы, рынуліся на свае дачныя соткі, занядбаўшы творчае гарэнне. Ці не стоіцца за шырмай гэтай самакрытыкі рэальныя глуміцелі нашага духоўнага ладу?

Што тут скажаш? Апаска мо і небеспадстаўная. Але паспрабуем разважыць. Пісьменнік—чалавек, і, як і кожны з нас, ён прагне свежай цыбулькі, малодзенькага гурочка, чыстага паветра, цішыні, нарэшце. Праўда ён падчас перабірае меру ў імкненні да ўсяго названага, і сатырык з Лысагор'я тут па-справядліваму бязлітасны. Але ж і з'едлівая самаіронія, выкрывальніцкая самаспаведзь паэтаў-лысагорцаў (аўтар, Вядзьмак, адзін з іх) даць усім нам неблагі прыклад—прыклад грамадзянскай, этычнай мужнасці. Чалавек — нявольнік сваіх патрэб. Але ж на тое ён і чалавек, каб узвысіцца духам над слабасцямі ўласнай прыроды, над свінцовым цяжарам акалічнасцей. Вязень эпохі застою, няўжо ён асуджаны век батрачыць на застой? Стань жа вольным, лысагорац! Хай не заслоніць вузкая града штодзённага бытавання неабсяжнага, вячыстага далягляду, імя якому—народ! Такія вось узнёсла-рамантычныя думкі-напаміны навеялі мне сатырычныя радкі паэмы.

Вядома, сярод рупліўцаў пяра, персанажаў паэмы, не толькі ёсць станоўчыя, але і адмоўныя. А дзе, у якім асяроддзі, скажыце, няма іх? Расчыніце шырэй вароты іншых дачных комплексаў, разам з тымі, на якіх староннюму воку дасюль не прынята запыняцца. Вазьміся, Вядзьмак — а ён на тое здатны—гэтак жа рашуча прапалоць і іншыя грады, «не взирая на ранги и лица», і стане відавочным: болькі і хворасці лысагорцаў—з'ява тыповая, хоць для грамадскага самапачуцця мо і не самая шкодная (пад іншым дачным дахам і не такое згледзіш!). Адносна ж віны пісьменніцкага цэха за пралікі ў нашай культуры скажу: наўрад ці пераважыла б яна, прыйдзі строгі, непадкупны суддзя, віну бюракратычнай працьмы наглядчыкаў ад культуры, ад чыіх бравурных маршаў у нядаўнюю сумную пору аж грымела наваколле. Так што пакіньма лысагорцам знішчаць пустазелле на іхніх дзялянках. Пэўна, дадуць сабе рады—паэма ў тым пераконвае.

Ды і кожнаму з нас самакрытычна прайсціся па ўласным агародзе, па прыкладу Ведзьмака з Лысай Гары, таксама не зашкодзіла б.

**Быў час, быў век, была эпоха,**
**Калі, наеўшыся ў адвал,**
**Сёй-той прыкінуў, што панчоха—**
**Зусім не кепскі ідэал.**

**Калі здрабнелі нават блазны,**
**І ўжо ніякі скамарох**
**Не мог дзвярыма ў гневе бразнуць**
**І маску зняць з сябе не мог.**

Па шчырасці, чытач, чыя гэта эпоха? Адно пісьменнікаў? Ці — мая, твая, наша? Са школьнай жа, студэнцкай лавы ведаем: гісторыю твораць людзі, але і гісторыя творыць людзей. Так што ад уласнай адказнасці за эпоху не адкруціцца. Нават калі асабіста ты і не сыпаў бісер перад казнакрадам, кабінетчыкам-дэмагогам, прыстасаванцам, а нават адважваўся перад каторым з іх дзвярыма бразнуць. Ды што з таго бразгання! Набрыдзі ўсялякай на целе грамадскім яшчэ хапае. Вунь і ўчарашні рэжысёр-трубач застою з ранейшай напышлівасцю (ужо «перабудаваўся»!) пнецца дыктаваць музыку рэвалюцыйнаму абнаўленню ў краіне. Значыць — самакрытыка і чуйнасць, браце, Эпоха, пра якую гаворка, яшчэ не завершана покі мы з табою, чытач, жывыя і ў адказе за свой час.

Пойдзем далей:

**Калі ў сталіцы беларускай**
**Культурнасыты мешчанін**
**Лічыў грамадскаю нагрузкай**
**«Язык тутэйшы» прышчаміць.**

Скажаш, не я прышчэмліваў, гэта міністры, іншыя начальнікі звялі нашу мову да становішча брыдкага качаняці; яны, маўляў, апусцілі шлагбаўм перад словам беларускім у гарадскія школы, тэхнікумы, ПТВ, ва універсітэцкія і інстытуцкія аўдыторыі, у кінастудыі і кінатэатры, у большасць тэатраў рэспублікі. Пакіньма покі чыноўнікаў, прыйдзе час спытаць і іх за глумленне над народнымі каранямі. Зрэшты, не па бюракратычных інструкцыях узнікаюць, развіваюцца народы і мовы. Калі б толькі на міласць «кабінетаў» разлічвалі Янка Купала, Якуб Колас, Ігнат Буйніцкі, Язэп Драздовіч, ці мелі б беларусы вялікую літаратуру, нацыянальны тэатр, сваю, беларускую школу жывапісу, наогул культуру?

У чым жа тады наша з табою мяшчанства, чытач? У чым віна перад словам мацярынскім? Мабыць, у тым, што паквапіліся на сыты харч, далі закарміць сябе, атлусцець сваім струнам душэўным. Даліся закалыхаць сваё памяць і гонар. А як з тым артыстам «народным», які не знае, знаць не хоча «і двух народных слоў»? Вядома, ні маёй, ні тваёй згоды не пыталі, перш чым каранаваць яго ў «народныя». Але ж пляскаць у ладкі, яму, псеўданароднаму, рукі нашыя часам не прытаміліся? Або яшчэ пытанне, мілы чалавек. Не здаралася табе раўнадушна прасунуцца міма прылаўка з беларускімі кнігамі—няхай там нават творы Купалы, Брыля, Быкава, Панчанкі—толькі таму, што яны беларускія? Мала таго, яшчэ і дзіця сваё ўбок адцягнеш, каб яно, крый божа,

# ...І неабходнасць пераўвасаблення

## По старонках часопіса «ВЯСЁЛКА»

У ЛЮБЫМ «дарослым» творы, будзь ён пра нашых сучаснікаў альбо пра мінулае, кожны літаратурны герой, як станоўчы, так і адмоўны, мае пэўнае ўнутранае падабенства з ягоным аўтарам. І, «спісваючы» героя з суседа, жонкі, знаёмага і г. д., пісьменнік папярэдне «прапускае» яго праз сваё разуменне, малюе яго згодна з патрабаваннямі свае душы. І чым ярчэй паказваецца ўнутраны свет персанажа, тым болей у ім ад самога аўтара.

У гэтым сэнсе значна складаней дзіцячаму пісьменніку, бо душа дзіцяці — гэта зусім іншы свет, з адметнай псіхалогіяй, логікай і нават філасофіяй. Каб спасцігнуць іх, спачатку трэба разбудзіць у сабе дзіця. Такое ўдаецца далёка не заўсёды, і нярэдка аўтары замест спасціжэння спрабуюць проста спрасціць дзіцячую душу. Пры гэтым трэба памятаць, што ўменне спасцігнуць — чыста чалавечая якасць, а для напісання добрага твора неабходна яшчэ і пісьменніцкае майстэрства. У суме ж атрымліваецца, што займацца літаратурнай дзейнасцю, адрасаванай юнаму чытачу (ці слухачу), зусім не так лёгка, як некаторым думаецца.

«Я павінен сказаць, што ў момант працы над творам для дзяцей я рашуча пра іх не памятаю. Таму што ў гэты час, знаходзячыся ў творчым стане, я сам як бы з'яўляюся дзіцем. Я не ўсведамляю, для каго я пішу. Я адчуваю як дзіця, як дзіця радуюся, засмучаюся, смяюся. Я б не назваў гэта нават пераўвасабленнем, падобным на пераўвасабленне акцёра. Бадай, гэта нават болей глыбокая перабудова ўсёй унутранай «сістэмы», усяго «рэгістра», — пісаў Сяргей Міхалкоў у артыкуле «Чаму я пішу для дзяцей» (часопіс «Детская литература», 1987, № 1).

Заўважце, у гэтых радках ні слова не сказана пра манеру пісьма, не сказана, што чаму папярэднічае пры напісанні, якімі павінны быць творы. Гэта кожны аўтар вырашае сам. Зрэшты, чытачоў (аднясём сюды і крытыкаў) цікавіць перш за ўсё не працэс напісання, а яго вынік, г. зн. новыя кнігі, публікацыі ў часопісах і газетах.

Давайце і мы звернемся да аднаго з беларускіх выданняў (няхай гэта будзе, скажам, часопіс «Вясёлка»), пагартаем яго мінулагоднія нумары і паглядзім, што прапануюць сваім чытачам паэты самых розных пакаленняў.

Вось, напрыклад, як нечакана намаляваў дождж у вершы «Во які вялікі!» Уладзімір Паўлаў:

**Гэта падаюць клубніцы,**
**І парэчкі, і суніцы.**
**З кожнай кропляй—ягадкі,**
**Грушы або яблыкі.**

На першы погляд, параўнанні здаюцца надта ўжо смелымі. Але ці недахоп гэта? Памойму, якраз смеласці і не хапае дзіцячай паэзіі. Звычайна паэты пішуць з арыентацыяй на нейкага сярэдняга, «стандартнага» чытача. Але ж дзеці — розныя, і запатрабаванні іхнія таксама розныя.

А вось як піша пра дождж Іван Рубін: «Сярэбраныя стрункі ад неба да зямлі. Дажджынкі-пацалункі па шчоках пацяклі. Як мама, так цалуе мяне лагодны дождж. Па лужах ён пратупае вясёлы - басанож». «Дажджынкі-пацалункі», «басаногі дождж»—метафары, як бачым, не новыя, ужо зацёртыя ў літаратуры.

Думаецца, спадабаўся юным чытачам верш Рыгора Яўсеева «Дзівосы» (гл. снежаньскі нумар «Вясёлкі»), столькі ў ім фантазіі і гумару. Там і «мышка белая расце, едзе верхам на каце, паганяе коціка мышка доўгім хвосцікам». Там «у акулы вырас чуб, на акуле вырас дуб, а на дубе у гняздзе заяц-шарачок сядзе».

Нечаканыя метафары, параўнанні, казачныя пераўвасабленні заўсёды ствараюць у творы цікавы і запамінальны малюнак. Адсутнасць іх, асабліва ў прыродаапісальных вершах, нярэдка прыводзіць да блякласці, невыразнасці радка:

**І хоць ізноў у час начны**
**Ільдзінкі сцягнуць воды хрустка,—**
**Ды чуй: усё званчэй яны**
**Звіняць наўсцяж, вясны званы,**
**Ды бач: бы ветразь ільняны,**
**Праменіць ярка яе (вясны. — А. Б.) хустка!..**
**(Кастусь Кірэенка, «Прадвесне». № 2)**

Мусіць, нялёгка ўявіць дзіцяці гэтую хустку, якая «праменіць», «бы ветразь ільняны».

Чытаю кароценькі верш Анатоля Прохарава «Жаба і рак» (№ 9).

**Неба хмарку адхінула—**
**Зорка на зямлю зірнула.**
**Пасвятлелі ў жабы вочы,**
**Будзіць рака сярод ночы.**
**— Уставай,—**
**Кажа,—**
**Бубніла!**
**Лямпачку я запаліла.**

Давайце прыглядзімся да верша ўважліва. Знайшоўшы цікавы сюжэт, аўтар усё ж да канца не прадумаў яго, і атрымалася, жаба сярод ночы разбудзіла рака толькі для таго, каб паведаміць, што яна запаліла лямпачку (зорку), якая, дарэчы, загараецца амаль кожную ноч.

Вылучаюцца сярод іншых публікацый дасціпнасцю і гумарам «Пума» Паўла Марціновіча (№ 7), «Вавёрчына майстэрня» Пятра Сушко (№ 1), «Пакатаўся», «Акуляры» Ніны Галіноўскай (№ 9), «Спрытны смоўж» Уладзіміра Паўлава, «Паласаткі» Міколы Чарняўскага, надрукаваныя ў майскім нумары часопіса.

І ўсё ж—ой, як зачакаліся нашы маленькія чытачы сапраўдных паэтычных адкрыццяў, твораў, якія ўражваюць, прымушаюць забываць пра ўсё на свеце, прымушаюць перачытваць іх зноў і зноў.

Вядома ж, ніводзін нумар «Вясёлкі» не абыходзіцца без вершаў, героямі якіх з'яўляюцца дзеці. Стараючыся як мага праўдзівей намаляваць свайго маленькага героя і пры гэтым дбаючы пра выхаваўчы момант, паэты вельмі часта збіваюцца на штампы і голую рыторыку. Здаецца, некаторыя аўтары свядома пішуць адны вершы—«для душы», другія—«для сцэны», для розных акцябрацкіх і піянерскіх мерапрыемстваў. Можа, у гэтым і ёсць нейкая свая логіка, але гэта логіка «добрых старых» часоў. У вершы, напісаныя ад імя дзяцей, падчас укладваюцца альбо голыя лозунгі, з якімі зараз змагаецца «дарослая» паэзія, альбо зусім не дзіцячы пафас. Для ранішнікаў хлопчыкі і дзяўчынкі нярэдка завучваюць поўныя штучнага пафасу вершаваныя радкі, зусім не ўнікаючы ў іхні сэнс, бо, па-першае, сэнсу там няшмат, а, па-другое, гэтыя радкі зусім не адпавядаюць іхняму светаўспрыманню, іхняй псіхалогіі.

Паглядзіце, як сёння змяніліся піянерскія газеты, колькі сур'ёзных, складаных праблем уздымаюць яны на сваіх старонках. І толькі паэты ўсё яшчэ ніяк не хочуць заўважыць гэтыя праблемы.

Вось што, напрыклад, прымушае казаць свайго маленькага героя Хведар Жычка ў вершы «Барабан»:

**Будзем мы бадзёрым маршам**
**Светлы, мірны дзень вітаць.**
**Хай гучыць над светам наша**
**«Тра-та-та-та! Тра-та-та!»**

У вершы Міколы Чарняўскага «Зорачка-пяцёрачка» акцябраты так расказваюць пра сябе: «Песні любім горача», «Праца шчыра спорыцца. Зоркі зіхацяць», «Весела нам, хораша жыць адной сям'ёй».

Наўрад ці перадасца дзецям і напускная прыўзнятасць верша Мар'яна Дуксы «Канікулы»: «Куды не кінеш вокам ты, усюды радасць ёсць. Займае дух — навокала якая прыгажосць!». Прыгажосць гэтую аўтар паказвае досыць банальна: «Як ззяннем пазалочана ў небе сінява! Як шэпча на абочыне шаўковая трава!». Не дапамагаюць і расстаўленыя на канцы радкоў шчодраю аўтарскаю рукою шматлікія клічнікі.

Чытаем у вершы Валянціна Лукшы «Пах роднай зямлі»:

**Шчымлівы боль**
**Апякае грудзі—**
**Вось родны кут**
**Ля Дзвіны-ракі.**
**А пах—**
**Бы гладжу рабочыя рукі.**
**Так нівы пахнуць**
**І васількі.**

Верш яўна не для малодшага школьнага ўзросту. Ёсць усе падставы сумнявацца, ці дойдзе да дзіцячага сэрца і гэты боль, і гэты пах. Заўважце, дарэчы: калі боль, то ён «шчымлівы», калі дзень, то абавязкова «светлы, мірны», калі зоркі, то яны «зіхацяць»... Ніводнай свежай метафары, ніводнага незацёртага параўнання, якое б зрабіла гонар паэту.

Калі В. Лукша імкнецца гаварыць пра сур'ёзныя, важныя рэчы, то М. Гамолка проста падрабляецца пад дзяцей. («На самакаце». № 10):

**Стану я на самакат**
**Раніцай, вясёлы,**
**І паеду у дзетсад,**
**А пасля—у школу.**

У вершы Эдзі Агняцвет «Што ты робіш?» (№ 8) чытаем: «Прэч шкадлівую травінку! Напаіць зямельку ўсмак! Морква ўскінула чупрынку, і лісты нам шле бурак». Не зразумела, што за лісты шле бурак дзяўчынкам?

У сваім лютаўскім нумары «Вясёлка» сярод іншых матэрыялаў прапанавала і верш Ганны Івановай «Метро». У ім маці загадвае маленькай дачцэ загадку: «Дзе святло, як серабро, лесвіца—што птушка?» «Ці ты, мама, пра метро?»—здагадалася дзяўчынка. Што ж, застаецца толькі пазайздросціць уменню дзіцяці адгадваць такія шматзначныя загадкі. Магчыма, гэта дробязь, але ці не залішне шмат аўтарскіх пралікаў, недакладнасцей, недарэчнасцей у дзіцячай паэзіі мы адносім да дробязей, хоць у «дарослай» кожны крытык на іх абавязкова «спатыкаецца» і ацэнку ім дае куды больш строгую. Атрымлі-



# ТЭРПСІХОРА ПАКУЛЬ НА РОСТАНЯХ

**Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР ва ўмовах комплекснага эксперымента**

**Пра мастацкія і вытворчыя праблемы Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР мы гаварылі ў артыкуле «Дрэйф зацягнуўся» (гл. «ЛіМ» за 12.02.88 г.). Сёння гаворку пра работу трупы ва ўмовах комплекснага эксперымента вядуць галоўны балетмайстар тэатра народны артыст СССР Валянцін Елізар'еў і наш няштатны карэспандэнт.**

— Тэатр павінен жыць у абстаноўцы здаровай канкурэнцыі. Такое маё меркаванне. Спакойнае, бяздзейснае жыццё тэатру супрацьпаказана. Таму трэба смялей брацца за эксперымент. Пры добрай арганізацыі гэта абяцае пэўныя выгоды. Не ўзяць іх—значыцца не быць гаспадаром у сваёй справе. Я глыбока веру, што ў выніку эксперымента пераможа прафесійная, чалавечая і сацыяльная справядлівасць артыста.

**— Валянцін Мікалаевіч, ва ўмовах эксперымента тэатры атрымалі магчымасць больш дакладна вызначыць сваю пазіцыю ў адносінах да рэпертуару. Як вы лічыце: пра што павінен распавядаць гледачу спектакль сёння? У чым звышзадача рэпертуарнай палітыкі тэатра?**

— Тэатр павінен выводзіць гледача да буйных думак і абагульненняў. У кожным гледачу, што прыйшоў на спектакль, за гэтыя 2—3 гадзіны павінна адбыцца духоўнаеператварэнне. Гэткая ўплывовая сіла ёсць ва ўзорах сусветнай класікі, у савецкіх творах. Адпаведным чынам мы і фарміруем свой рэпертуар. Я ў дадзеным выпадку адказваю за наш балет.

**— А як вы ставіцеся да сучасных аўтараў?**

— Асабіста мне імпануе такі аўтар, які блізкі мне не толькі паводле мастацкіх пошукаў, але і як чалавек—паводле сваіх поглядаў і імкненняў, перакананы ў сіле мастацтва харэаграфіі, са сваімі мастацкай і грамадзянскай пазіцыямі.

**— Валянцін Мікалаевіч, эксперымент даў магчымасць тэатрам самім вызначаць тэрмін выпуску спектакля...**

— Гэта добра ў межах разумнага. Ды на практыцы многія пастаноўшчыкі бяруць неабгрунтавана вялікую колькасць рэпетыцый, а гэта, я лічу, не трэба тэатру. Выпуск спектакля мае быць справай досыць кароткай. Пастаноўшчыку трэба вельмі добра рыхтавацца да спектакля. А прыдумваць усё «на людзях», на сцэне, бясконца эксперыментаваць з калектывам, выдаткоўваючы вельмі многа часу,—гэта паслабляе, «разрэджвае» творчасць.

**— Ці адчуваецца прынцыповая розніца між тым, што да эксперымента мастацкі савет тэатра прызначаўся загадам Міністэрства культуры, а цяпер ён абраны дэмакратычным шляхам, унутры калектыву?**

— Мне здаецца, мастацкі савет зрабіўся больш зацікаўленым у пытаннях і творчых, і вытворчых. Прыкметна ўзрасла адказнасць літаральна кожнага ягонага члена.

**— Ці не значыць гэта, што апошняе слова можа быць за калектывам?**

— Не. Апошняе слова, думаю, застанецца за тым, хто выдае загады. За дырэктарам. Мастацкі савет усё ж—дарадчы голас, а не рашаючы. Хаця ў нейкіх пытаннях, думаю, дырэкцыі даводзіцца ўлічваць меркаванне мастацкага савета.

**— Хтосьці казаў, што дырэктар павінен правільна разумець перспектывы мастацкага развіцця тэатра, умела і тактоўна арыентаваць творчых работнікаў на дасягненне агульных мэт, быць таленавітым арганізатарам, дбайным гаспадаром, дасведчаным грамадазнаўцам. У такім разе можна зрабіць выснову, што на долю, скажам, галоўнага рэжысёра ці галоўнага балетмайстра застаюцца праблемы чыста творчыя: напрыклад, падтрымліваць у трупе высокапрафесійны ўзровень як тэхнічнага, так і мастацкага майстэрства, здзіўляць гледача цудоўнымі пастаноўкамі...**

— Сапраўды, роля дырэктара тэатра сёння вялізная. Часцей мы чуем эпітэт «таленавіты» ў дачыненні да рэжысёра, хормайстра, дырыжора, артыста, балетмайстра, але не зашкодзіла б надзяляць гэтым эпітэтам і дырэктара таго або іншага тэатра. Калі ён гэтага варты, вядома. А што датычыць праблем, якімі даводзіцца займацца ўсім галоўным спецыялістам у тэатры, дык яны такія разнастайныя і часцяком непрадказальныя, што для творчасці, бывае, не застаецца ні часу, ні сіл.

**— Валянцін Мікалаевіч, як у вас у балеце адбываецца працэс амалоджвання калектыву? Я ведаю, што ў Гранд-апера, напрыклад, нават самы знакаміты саліст, які яшчэ мае досыць сілы, каб працаваць, ва ўзросце сарака гадоў вымушаны пакінуць сцэну, саступіўшы месца больш маладому. А ў нас—ці хваравіты працэс змены пакаленняў? Што прапануе тэатральны эксперымент у гэтым выпадку?**

— Цяжка тут нешта прапанаваць, каб усіх усё задаволіла. Сапраўды, гэты працэс хваравіты, але балет—мастацтва маладосці. З узростам прыходзіць майстэрства, ды ў той жа час адыходзіць маладосць. Прырода чалавечая ў гэтым сэнсе бязлітасная. На жаль, не ўсе гэта разумеюць. Таму даводзіцца весці непрыемныя размовы. Гэта натуральна.

**— Ці ёсць у вашай трупе відавочна слабыя ў прафесійным сэнсе артысты і ці можаце вы іх пазбавіцца, калі трэба? Ці цалкам укамплектавана трупа?**

— Відавочна слабых у балеце не можа быць, бо ён жа складаецца з прафесіяналаў. Зала б такіх заўважыла і прад'явіла б слушныя прэтэнзіі да нас. Гаварыць можна пра бліскучы ўзровень, добры і сярэдні. Эксперымент—гэта акурат тая нагода, калі сёй-той будзе вымушаны задумацца пра сваё месца ў трупе, а камусьці, мабыць, давядзецца і проста звольніцца. Сёння ў нас ёсць вакантныя месцы, але мы іх пакуль не спяшаемся запаўняць, каб дзякуючы эканоміі фонду заработнай платы мець магчымасць надбаўкі артыстам, якія добра працуюць. Тым, якія сапраўды таго вартыя. Не сакрэт жа, што зарплата ў артыстаў балета вельмі малая.

**— Паводле ўмоў эксперымента захоўваюцца тры планавыя паказчыкі, што зацвярджаюцца для тэатра органам культуры. Адзін з гэтых паказчыкаў—колькасць абслугоўваемых гледачоў. Які варыянт вы лічыце самым прымальным для таго, каб і колькасць гледачоў не страціць, і ў той жа час не апускацца да нізкапробных шлягерных спектакляў, так званых касавых?**

— Самы галоўны паказчык эксперымента — гэта крытэрый якасці новых спектакляў і спектакляў бягучага рэпертуару. І гэтаму крытэрыю павінны падпарадкоўвацца ўсе паказчыкі эксперымента.

**— Вядома, што на балетныя спектаклі ў Мінску білет практычна дастаць немагчыма. Значыцца, з гледачом усё ў парадку. Як вам гэта ўдаецца?**

— Магчыма, тут такое супадзенне: з аднаго боку, у нас у трупе ёсць шэраг цудоўных салістаў, а з другога, як я ўжо казаў,—рэпертуар. Гляньце на нашу афішу...

**— Да двух супадзенняў можна дадаць і трэцяе: арыгінальнасць уласна вашых пастановак.**

— Ну, вам збоку больш відаць...

**— Валянцін Мікалаевіч, ці мог бы беларускі балет працаваць на самаакупнасці?**

— Безумоўна.

**— З захаваннем той датацыі, якую вы атрымліваеце?**

— Без датацыі не працуе ніводны музычны тэатр у свеце.

**— І апошняе пытанне. Эксперымент скіраваны на вырашэнне адной з надзённых праблем развіцця сучаснага тэатра —праблемы перабудовы мастацкага і вытворчага працэсаў. Зрабіць тэатр больш прафесійным, энергічным, таленавітым, маладым. Не ператвараючы тэатр у камерцыйнае прадпрыемства, паставіць умовы яго мастацкай дзейнасці ў непасрэдную залежнасць ад збораў, г. зн. ад ягонага поспеху ў гледачоў.**
**Валянцін Мікалаевіч, асабіста вы як галоўны балетмайстар адчулі розніцу паміж тым, як было да эксперымента і як цяпер, калі мінула амаль паўтара года эксперымента?**

— Нарэшце мы дабраліся да галоўнага! А калі сур'ёзна, дык увесь парадокс у тым, што ў ліпені 1987 года мы аддалі дырэкцыі тэатра ўсе нашы прапановы, дзе выказалі найбольш прынцыповыя і важныя, на наш погляд, палажэнні, каб праверыць на практыцы: што ёсць што і хто ёсць хто,—але дасюль не атрымалі на гэтыя прапановы ніякага адказу. Ні станоўчага, ні адмоўнага. Дырэкцыя, я так лічу, раздумвае: як абысціся з балетам, які вельмі хоча ўступіць у эксперымент.

**— Думаю, дырэкцыі тэатра давядзецца выступіць на старонках «ЛіМа» па пытаннях эксперымента. Дзякуй за гутарку.**

Гутарыў Арнольд ДЫБЧА.

## ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ

**«Мёртвы сезон» скончыўся!» — пад такім загалоўкам 23 кастрычніка 1986 г. ў «ЛіМе» быў надрукаваны артыкул кінакрытыка Т. Цюрынай, дзе ўзнімаліся надзённыя пытанні кінапракату і кінафікацыі. Артыкул прыцягнуў увагу чытачоў, якія прапанавалі свой погляд на праблему («ЛіМ», 25 снежня 1987 г. і 4 сакавіка 1988 г.).**
**Сёння — працяг размовы.**

# ГІСТОРЫЯ ПРА КЕПСКУЮ ГАСПАДАРКУ

Мы шмат гаворым аб дыферэнцыраваным падыходзе да гледача, аб новых формах работы перад сеансам, аб пракаце так званых «цяжкіх» стужак. У адказ — шматслоўныя пералікі мерапрыемстваў, пачынанняў. Вось толькі дзейснасці няма ў нашых размовах. Бо ўсё, што адбываецца ў кінатэатрах горада, пазбаўлена ці не самага галоўнага—сістэмнасці, метадалагічнасці.

Так, у нас ёсць спецыялізаваныя кінатэатры. «Беларусь», напрыклад, называецца «кінатэатрам паўторнага фільма». У сапраўднасці не кінатэатр, а адна з яго залаў, а яшчэ дакладней, толькі некаторыя сеансы аддаюцца старым стужкам. Да таго ж гэтыя фільмы раней дэманструюцца ў іншых кінатэатрах. Далібог, кінатэатр не паўторнага, а апошняга прагляду! І шчыра шкада супрацоўнікаў «Беларусі»,—план жа выконваць «пасля ўсіх» вельмі цяжка. А як плённа можна было б працаваць у сапраўдным кінатэатры паўторнага фільма: арганізоўваць тэматычныя праграмы старых карцін, вечары кінаўспамінаў і г. д. Але ўсё ўпіраецца ў першапачатковае — у кінафільм, які, на жаль, кінафікатары выбіраюць не самастойна. Дакладней, і выбіраюць, і не.

Сёння кінафікатары звяртаюцца па фільмы ў кантору кінапракату. Так ствараецца яшчэ адзін ведамасны бар'ер, які не так проста пераскочыць, бо ў пракатчыкаў сваё разуменне аб працы кінафікатараў, свае адносіны да спецыялізацыі. Яны, пэўна, думаюць, што бачаць далей і глыбей, калі стужкі «Трыццаць тры», «Джэнтльмены ўдачы», або «Гэты шалёны, шалёны, шалё-

# А КАДРАЎ НЯМА...

Хачу падзяліцца сваімі думкамі наконт праблем кінапракату і кінафікацыі на нашай Віцебшчыне. А праблем — хапае...

Пакуль што ў вобласці з дзвюх тысяч з большым кінаработнікаў спецыяльную, галоўным чынам, кінатэхнічную адукацыю маюць толькі 270, гэта прыкладна 15 працэнтаў. Сярод рэдактараў і метадыстаў няма ніводнага кіназнаўцы, які б меў рэжысёрскую, тэатральную, мастацкую адукацыю. Вядома, ёсць у нас семінары, канферэнцыі, пасылаем кадры на павышэнне кваліфікацыі. Але папоўніць няхватку кваліфікаваных кадраў не можам, таму нашы пажаданні і метадычныя рэкамендацыі проста не ўспрымаюцца цяпер работнікамі. У кінаўстановах у прапагандзе фільмаў заняты практыкі, і нярэдка яны атрымліваюць зарплату не за прапаганду карцін, а за тое, што своечасова размяркоўваюць фільмы па кінаўстаноўках, а ў гарадах часцей за ўсё выконваюць ролю кур'ера па справах кінафірмы або кінатэатра.

Намі была зроблена спроба арганізаваць пры кінатэатрах у гарадах групы грамадскіх кінааглядальнікаў. Былі гутаркі з перспектыўнымі таварышамі... Але без трывалых прафесійных ведаў пасля некалькіх выступленняў яны адмовіліся, адчуўшы, што гэта ім не па сілах. Магчыма, кінаработнікам-мінчанам лягчэй: працуюць інстытуты мастацтвазнаўчага профілю, кінастудыя «Беларусьфільм». Клопат жа пра такія кадры павінен стаць на першае месца ва ўсёй кіналесвіцы не толькі рэспублікі, але і

**НАШЫ ГОСЦІ**

# Зварот да чалавечнага

**У 1986 г. пад час правядзення Дзён культуры Беларусі ў Славеніі ў Любляне быў падпісаны дагавор аб культурным супрацоўніцтве паміж Дзяржаўным тэатрам лялек БССР і Люблянскім лялечным тэатрам. Першым вынікам супрацоўніцтва стала прэм'ера спектакля «Здарэнне ў горадзе Гога» паводле п'есы вядомага славенскага пісьменніка Слаўка Грума на сцэне Дзяржаўнага тэатра лялек, пастаноўку якога ажыццявіла творчая група з Югаславіі.**

**Мік Невен Сімчыч, мастак спектакля, з плеяды выдатных маладых славенскіх мастакоў. Яго персанальныя выстаўкі адбыліся ў многіх гарадах СФРЮ, Італіі, Аўстрыі, ГДР, ФРГ. Яго мастацкі почырк і асаблівая зацікаўленасць магчымасцямі лялечнага тэатра дазваляюць яму адкрываць новае ў разуменні, сцвярджанні сучаснага лялечнага мастацтва. Лада Якша, кампазітар спектакля, вядомы і як музыкант-выканаўца (саксафон, флейта, фартэпіяна, сінтэзатар) не толькі ў Югаславіі, але і ў ЗША, Аўстрыі, Вялікабрытаніі. Сёння ён адзін з найбольш папулярных тэатральных кампазітараў Югаславіі. Рэжысёр спектакля, прэзідэнт Югаслаўскага цэнтра УНІМА Эдзі Майарон — адзін з вядомых дзеячаў тэатра лялек Югаславіі, тэатральны рэжысёр і кампазітар, музыкант-выканаўца, шырока вядомы за межамі сваёй краіны. Ім пастаўлена больш за пяцьдзесят спектакляў, якія мела магчымасць паглядзець публіка Італіі, Францыі, Аўстрыі, ФРГ, Галандыі, Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі, Балгарыі, Румыніі, Вялікабрытаніі, Швецыі, Канады, Японіі.**

**Наш няштатны карэспандэнт пагутарыла з Эдзі Майаронам.**

— Эдзі, вы ўпершыню працуеце з савецкай трупай, школа і прынцыпы творчасці якой, відаць, адрозніваюцца ад тых, з якімі вам даводзілася сутыкацца? Што вы можаце сказаць пра магчымасці нашага беларускага лялечнага тэатра?

**— Першы раз я быў у Савецкім Саюзе на святкаванні 80-годдзя Сяргея Абразцова і тады бачыў многія савецкія лялечныя калектывы, пазнаёміўся з асноўным традыцыйным кірункам лялечнага тэатра вашай краіны. Трупу мінскага тэатра ўпершыню меў магчымасць**

ны, шалёны свет», якія зноў выходзяць на шырокі экран, аддаюць вялікім кінатэатрам: у іх, маўляў, план вялікі — ім больш неабходна. Усё па логіцы дрэннай гаспадыні, якая цыруе панчохі на каленях, а пяткі—пачакаюць. Гэткая бессістэмнасць гаспадарання вядзе да таго, што вялікія кінатэатры сяк-так план выконваюць, а малыя ж—наадварот: амаль заўсёды не дацягваюць да запаветных лічбаў.

Такіх нелюбімых «дзетак», так званых спецыялізаваных кінатэатраў, у кінафікацыі нямала. Кінатэатр «Мір» амаль тры гады назад выступіў з ініцыятывай зрабіць кінатэатр палітычнага фільма. На словах ініцыятыву падтрымалі, але стужкі накшталт «Ягуара», ужо не гаворачы аб замежным «Дэніэле», як ішлі спачатку ў «Маскве», «Кастрычніку» або «Салюце», так і ідуць.

Можна, вядома, спрачацца наконт мэтазгоднасці такога кірунку ў кінатэатры, дзе ёсць зала стэрэапрагляду. Такое кіно развіваецца ў нас амаль у адзіным жанры — прыгодніцкім (казкі, фантастыка і г. д.). А значыць, адрасавана хутчэй дзіцячай аўдыторыі. І слушна было б арганізаваць тут дзіцячы кінатэатр (да таго ж супрацоўнікі яго захоплены развядзеннем птушак і ўсялякіх раслін) і выслабаніць ад гэтых цяжкіх для абавязкаў «Піянер», які ўжо мае ў горадзе «свой твар»—кінаклуб «Профіль» (праблемнага фільма), і, дарэчы, для працы з маленькім гледачом ён нават і не прыстасаваны: кепская аванспэна, рыпучыя драўляныя крэслы.

Дзіцячыя прагляды—увогуле балючая тэма для кінафікатараў. Выканаць так званы план дзіцячага гледача без адпаведнай арганізацыі—без распаўсюджвання білетаў па школах—амаль немагчыма. Вось і ідуць шырокай плынню кіналекторыі, кінапрагляды, кінафестывалі да ўсіх памятных і не вельмі памятных дзён. Але ўсе яны патрабуюць ФІЛЬМА. І зноў кінафікатары грукаюць у дзверы канторы кінапракату, супрацоўнікі якой, зыходзячы з адпаведных інструкцый, даюць на дзіцячыя мерапрыемствы стужкі выключна з індэксам «Д». Не любяць супрацоўнікі кінапракату парушаць інструкцыі. У выніку атрымліваецца, гаворачы словамі выхаваццеля кінатэатра «Піянер», так: вучням старшых класаў расказваюць пра сучасную музыку. а паказваюць казку пра аднарогую карову...

Акрамя кантролю за распаўсюджваннем копій па рэспубліцы, кінапракатчыкі павінны клапаціцца аб тым, каб набыць той ці іншы фільм, каб задаволіць попыт сваіх гледачоў, тых жа ўдзельнікаў кінаклубаў, напрыклад. Чаму б не заказаць у Маскве фільм, які ёсць у савецкім пракаце, рэжысёра з сусветна вядомым імем Маргарэт фон Тротты «Свінцовы гадзіннік»? Або—звярнуцца на кінастудыю «Грузіяфільм», каб набыць копіі фільмаў Аляксандра Рэхвіяшвілі «Грузінская хроніка XIX стагоддзя» і «Шлях да дому»? Усё можна і неабходна рабіць, але для гэтага трэба адчуць сябе не чыноўнікам, бюракратам, выпісваючым або не выпісваючым фільм, а чалавекам справы.

Толькі тады, да прыкладу, кінатэатр «Авангард» стане сапраўдным месцам прагляду так званых «цяжкіх» фільмаў. Цяпер жа яго афіша да таго стракатая, што, здаецца, адміністрацыя кінатэатра імкнецца дагадзіць адразу ўсім густам і ўсялякім іх адценням.

Добра, вядома, што кінатэатр «Авангард» праводзіць прэм'еру дакументальнай стужкі рэжысёра С. Арановіча «М. Горкі. Апошнія гады», якая па рашэнні канфліктнай камісіі СК СССР праз дваццаць гадоў выйшла на шырокі экран, але дзе ж наш спецыялізаваны кінатэатр дакументальных фільмаў «Змена»? Усе дакументальныя стужкі, якія абудзілі сёлета цікавасць гледача — «Ці лёгка быць маладым?», «Найвышэйшы суд. Кінаматэрыялы»,—прайшлі спачатку ў вялікіх кінатэатрах горада. Упэўнена, не адабралі б гледача ў «Масквы» ці «Кастрычніка» супрацоўнікі «Змены», калі б зрабілі прэм'еру гэтых стужак у сваім «доме»; да таго ж набылі б да сябе павагу. І глядзіш, тады не праходзілі б міма гледача такія высокамастацкія карціны, як «Элегія» А. Сакурава ці «Жанчыны з вострава Кыхну» М. Саасаара. Глядзіш, і адрадзіліся б «Навіны дня», з іх колішняй славай кінатэатра дакументальнага фільма.

Што ж, выпраўляць памылкі іншы раз вельмі цяжка. Што рабіць, напрыклад, з гэтымі вялізнымі кіназаламі, з размахам пабудаванымі некалькі дзесяткаў гадоў назад? Які фільм можа задаволіць такую вялізную аўдыторыю? Якое мерапрыемства захопіць увагу тысячы пар вачэй адначасова? Адзінае, на мой погляд, выйсце —менавіта тут трэба асвойваць клубныя формы: арганізацыю шоу-прэм'ер, тэатральных і танцавальных вечароў і г. д. У вялікіх кінатэатрах і кадры, і грошы для такіх спраў ёсць. Навошта ж імкнуцца ў невялікім «Камсамольцы» праводзіць вечар па «тэатральным прынцыпе» і абяцаць гледачам перадсеансавы прагляд кінаканцэрта, продаж пласцінак, кніг і г. д., а потым выконваць абяцанае ў такіх памерах і з гэткім густам, што гледачам застаецца толькі здзіўляцца, а ці быў у «Камсамольцы» вечар?!

Напісала гэтыя радкі і падумала: зноў кінафікатары прымуць надрукаванае за чарговы пасквіль (колькі іх было!). Не дзеля таго пісалася: хацелася, каб сапраўды задумаліся тыя, хто працуе з кінафільмамі, як пракатваць карціны. Тады не было б дзіўнага падзелу кінатэатраў на вялікія і малыя, быццам гэта—тара, а ўсе намаганні ідуць на тое, каб яе запоўніць. Няма кінатэатраў малых ці вялікіх, ёсць кінатэатры рознага сацыяльнага, эстэтычнага, узроставага кірунку.

**Наталля ЛЫСОВА,**
**кінакрытык, кансультант праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР.**

ўсёй краіны. Думаецца, пачынаючы з новага навучальнага года ў ВНУ культуры, мастацтва, кінематаграфіі трэба аб'явіць прыём студэнтаў, укамплектаваць асобныя групы і забяспечыць падрыхтоўку кінапрапагандыстаў, паступова змяншаючы голад на такія кадры.

У кастрычніку 1980 года на сумесным пасяджэнні калегій Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі СССР, Міністэрства культуры СССР, сакратарыятаў ВЦСПС і ЦК ВЛКСМ была прынята пастанова «Аб рабоце факультэтаў грамадскіх прафесій вышэйшых навучальных устаноў і мерах па яе паляпшэнні». Быў тады зацверджаны прыкладны пералік аддзяленняў і спецыяльнасцей па падрыхтоўцы кадраў на такіх факультэтах. Важная справа. Праўда, у тым пераліку не аказалася грамадскіх прафесій кінапрапагандыста, кінаметадыста, кінааглядальніка, рэдактара кінапраграм і г. д. Мне думаецца, было б цікава даведацца, чаго дасягнулі ВНУ ў прапанаваным накірунку. Пастанова пакуль дзейнічае. Трэба Дзяржкіно скарыстаць яе і з дапамогай кафедраў ВНУ скамплектаваць групы кінаспецыялістаў на факультэтах грамадскіх прафесій і значна пашырыць навучанне кінапрафесіям будучых спецыялістаў, якія змогуць прыняць на сябе абавязкі грамадскіх кіраўнікоў і кінагурткоў, і кіналекторыяў, і кінаклубаў. Цяпер жа, калі да нас у кінасетку прыходзіць на работу настаўнік, культасветработнік ці хто іншы, хоць збольшага знаёмы з тэатрам (разумее, што такое завязка, развязка, мізансцэна, скразное дзеянне, а ў дадатак можа сказаць сваё слова і пра фільм), мы настолькі рады, што прапануем такім людзям самыя высокія пасады.

Добрым памочнікам можа быць рэспубліканскае бюро па прапагандзе кінамастацтва. Яго дзейнасць варта зрабіць больш шырокай, час у ім мець 5—6 кваліфікаваных лектараў-кіназнаўцаў і перыядычна пасылаць іх і для выступленняў на публіцы ў кінатэатрах і для ўдзелу ў семінарах кінаработнікаў. Апошнім часам у метадычны кабінет упраўлення шмат разоў звярталіся кінаработнікі гарадскіх і пасялковых кінатэатраў з просьбамі накіраваць кіназнаўцу для ўдзелу ў кінавечары, на сустрэчу з кінагледачамі. І даводзіцца проста адмаўляць у такіх просьбах. Часам, праўда, знаходзім актывістаў, але гэта звязана з вялікімі цяжкасцямі, бо яны выязджаюць як пазаштатныя лектары, у якіх, па сутнасці, у такіх выпадках стаіць свая асноўная работа.

На Віцебшчыне кінаработнікі не сядзяць склаўшы рукі, чакаючы прыезджых кінааглядальнікаў ці артыстаў. Вядома, мы прымаем такіх вельмі рэдкіх ганцоў, прадастаўляем ім аўдыторыю і ў іх вучымся рабоце з кінафільмамі. Дапамагаюць нам друкаваныя выданні «Союзинформкино», якія стараемся даслаць у кінатэатры і кінадырэкцыі як мага хутчэй для работы. Упраўленне кінафікацыі выдае спецыяльны бюлетэнь пра перадавы вопыт работы—«Новае, перадавое—у кіназалы».

Думаецца, што неабходна значна павялічыць тыраж інфармацыйна-метадычнага зборніка «Кіно — дзецям». Цяпер ён даходзіць толькі да абласнога цэнтра і кінапракатных аддзяленняў, не хапае нават раённым кінарэдакцыям, не кажучы ўжо пра школы, прафтэхвучылішчы, дзе было б пажадана атрымліваць гэтае выданне. Вобласць пакуль атрымлівае ўсяго 35 экземпляраў. А такі метадычны дапаможнік адыграў бы вялікую ролю ў школьных кінатэатрах, кінаклубах. Ды не перашкодзіў бы ён і камсамольскім камітэтам, бо яны таксама працуюць са школьнікамі.

**М. ШМАТКОЎ,**
**заслужаны работнік культуры БССР, дырэктар метадычнага кабінета ўпраўлення кінафікацыі Віцебскага аблвыканкома.**

**бачыць на гастролях у Любляне, дзе атрымаў задавальненне ад выдатнага, неардынарнага спектакля «Граф Глінскі - Папялінскі», пастаўленага Аляксеем Ляляўскім. Тады ў мяне склалася ўражанне пра яркі, здольны ансамбль, з якім можна рабіць сучасны спектакль. Таленавітыя кіраўнікі тэатра Аляксей Ляляўскі і Яўген Клімакоў, гэтак жа, як і ўвесь ансамбль, не толькі не баяцца, але і здольныя ісці і ідуць наперадзе праблем, у авангардзе іх вырашэнняў. Яны разумеюць і ведаюць, для каго і навошта твораць: для гледачоў. Калі калектыў гаворыць з гледачом на роўных, бачыць у іх аднадумцаў — гэта адзнака таго, што ў тэатра ёсць аўтарытэт, што тэатр рупліва выхоўвае свайго гледача.**

— Для рэжысёра паказчыкам адносін да таго ці іншага калектыву часта бывае жаданне ці нежаданне працаваць з трупай. Якія пачуцці перажывалі вы?

**— Калі я ўбачыў «Графа Глінскага-Папялінскага», мне захацелася паставіць спектакль з гэтай трупай. За месяц працы я пераканаўся, што лялечны тэатр з Мінска — тэатр высокага прафесійнага майстэрства, тэатр, які ідзе ўпоплеч з лепшымі тэатрамі свету. Я меў магчымасць бачыць спектаклі розных краін на многіх міжнародных фестывалях, і магу сцвярджаць гэта. Ваш тэатр належыць да новага авангарднага напрамку ўмоўнага і мыслячага тэатра, напрамку, які закліканы абуджаць думку і фантазію залы. На маю думку, Дзяржаўны тэатр лялек БССР — адзін з лепшых і вядучых у вашай краіне.**

— Чаму вы абралі менавіта гэтую п'есу, «Здарэнне ў горадзе Гога», пісьменніка Слаўка Грума? Пры жыцці прызнання ён не атрымаў, а гэтая п'еса, напісаная ў 1928 годзе, была далёкая ад праблем рэалізму таго часу. Толькі ў 60-х гадах да яе ўзнікла цікавасць...

**— Калі мастацтва ёсць комплекс знакаў, дык у кожнага народа, кожнай нацыі яны свае, зыходзячы з многіх умоў. А ў дарослых людзей усяго свету праблемы аднолькавыя. Сучасны тэатр лялек у канфрантацыі акцёра і прадмета-лялькі дазваляе вельмі дакладна, паслядоўна інтэрпрэтаваць Грума: акцёр прадстаўляе знешнюю абалонку персанажа, а яго душу — лялька. Душу скрыўленую, дзіўную, трансфармаваную выхаваннем і часам, як партрэт Дарыяна Грэя. Гога — горад, у якім не вырашаюцца вялікія палітычныя праблемы. Усе яго жыхары чакаюць здарэння, якое павінна змяніць іх вегетатыўнае жыццё, чакаюць катарсісу, ачышчэння, але пры гэтым самі не жадаюць змяніцца... Я вельмі хваляваўся, як успрымаецца п'еса з яе гратэскам, іроніяй вашай публікай. Але калі Аляксей Ляляўскі расказаў, што ён сам ужо зрабіў інсцэніроўку рамана «Майстар і Маргарыта» М. Булгакава, я супакоіўся. Першы пераклад п'есы Грума са славянскай на рускую мову спецыяльна для вашага тэатра зрабіла перакладчыца Наталля Травіна. Думаю, у сённяшняй сітуацыі публіка Мінска павінна зразумець думку драматурга: неабходна, каб людзі былі гатовыя адкрыцца чалавечнасці. Тады і грамадства зменіцца, а ў гэтым наша будучыня... Мне здаецца, менавіта ў гэтым для ўсіх нас, народаў свету, і ёсць перабудова: увага да пераломнага моманту гісторыі, грамадства. Змяненне грамадства магчыма толькі пры ўмове, што ўсе гатовы адмовіцца ад канфармізму, перабудавацца. Калі ж не — сітуацыя будзе ранейшай, як была доўгія гады. Таму я спадзяюся, што першая пастаноўка «Здарэння ў горадзе Гога» ў Савецкім Саюзе і, акрамя таго, упершыню з лялькамі, зробіцца універсальным зваротам Грума да чалавечнасці ў адносінах паміж людзьмі.**

— Вашы пажаданні мінскім гледачам і тэатру?

**— Гледачам жадаю сустрэчы са спектаклем, а тэатру — новых поспехаў, шырокай карты гастроляў і міжнародных фестываляў.**

**Гутарку вяла**
**Н. КРЫВАШЭЕВА.**



Сцэна са спектакля «Здарэнне ў горадзе Гога».
Фота В. ВІТЧАНКІ.

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

# У САЮЗЕ КАМПАЗІТАРАЎ БССР

**Па ініцыятыве прэзідыума праўлення СК БССР адбылася сустрэча кіраўніцтва і прадстаўнікоў Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР з кампазітарамі рэспублікі.**

**Сёння на афішы тэатра толькі чатыры творы беларускіх аўтараў: «Альпійская балада» і «Ціль Уленшпігель» Я. Глебава, «Сцяжынаю жыцця» Г. Вагнера, «Крылы памяці» У. Кандрусевіча. А ў рэальных планах — толькі опера У. Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха», над якой распачалася праца. Як адзначалі ўдзельнікі гаворкі, незаслужана зняты з рэпертуару «Джардана Бруна» С. Картэса, «Сівая легенда» Д. Смольскага, занядбаны творы, напісаныя для музычнай сцэны Я. Цікоцкім, А. Багатыровым...**

**У гутарцы ўдзельнічалі старшыня праўлення СК БССР І. Лучанок, яго намеснікі Я. Глебаў, У. Дарохін, кампазітары Г. Вагнер, А. Сонін, крытык А. Ладыгіна, галоўны дырыжор тэатра Г. Праватораў, галоўны рэжысёр В. Цюпа, дырэктар В. Букань, дырыжор Я. Вашчак, начальнік упраўлення тэатраў і музычных устаноў Міністэрства культуры рэспублікі У. Рылатка і інш. Прысутныя выказалі зацікаўленасць у тым, каб паміж тэатрам і кампазітарамі наладзіліся па-сапраўднаму творчыя і сталыя кантакты.**

# У САЮЗЕ ТЭАТРАЛЬНЫХ ДЗЕЯЧАЎ БССР

**2 красавіка Саюзам тэатральных дзеячаў БССР быў наладжаны чарговы «круглы стол» — «Аб перабудове тэатральнай справы ў рэспубліцы», які меў на мэце абмен думкамі і меркаваннямі дзеячаў тэатра аб шматлікіх набалелых пытаннях развіцця сучаснага беларускага тэатра. Запрошаная да ўдзелу тэатральная грамадскасць рэспублікі (сярод яе — прадстаўнікі акадэмічных тэатраў імя Якуба Коласа і Янкі Купалы, ТЮГа, Маладзёжнага тэатра, Гродзенскага і Брэсцкага абласных драматычных тэатраў) павяла прынцыповую гутарку. Былі закрануты праблемы падрыхтоўкі творчых кадраў (загадчык кафедры акцёрскага майстэрства і рэжысуры БДТМІ У. Мішчанчук), пераводу некаторых тэатральных труп рэспублікі на дагавор (загліт Маладзёжнага тэатра Г. Ваўчок), роля крытыкі ў развіцці сучаснага тэатра (народны артыст БССР Ю. Сідараў, тэатральныя крытыкі Т. Арлова, В. Ракіцкі). Прынцыповыя пытанні выканаўчага майстэрства закранула заслужаная артыстка рэспублікі М. Гулегіна. акцёр купалаўскага тэатра Г. Давыдзька. заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Б. Луцэнка. Начальнік упраўлення тэатраў і музычных устаноў Міністэрства культуры БССР У. Рылатка пазнаёміў прысутных з планамі Міністэрства культуры па развіцці дзіцячых тэатраў у рэспубліцы і з праграмай падрыхтоўкі творчых кадраў, прынятай сумесна з БДТМІ. Прадстаўнік Тэатра-студыі кінаакцёра П. Юрчанкаў нагадаў пра становішча беларускіх кінаакцёраў на кінастудыі «Беларусьфільм», адсутнасць добрай кінашколы ў рэспубліцы.**

**Падобныя «круглыя сталы» мусяць зрабіцца традыцыйнымі, пра што і абвясціў вядучы, народны артыст СССР, сакратар СТД БССР Р. Янкоўскі.**

# ПАЭЗІЯ

## Ніна ЗАГОРСКАЯ



●

Як птахі,
ляцяць нашы думы
да родных гнёздаў, да родных гоняў,
да лугоў, да гаёў, пра якія
помнім мы ўсё да драбніц.
Ляляць нашы думы
дадому,
Ляцяць да крыніц.

### Безгалосыя жаўрукі

1

Мамін ручнік —
белая дарога ў вечнасць.
Усё яе жыццё — патканае надзеямі.
Усе яе надзеі — пабітыя градам болю.
Увесь яе боль — падшэрхлая скарынка
цярпення.
Усё яе цярпенне — крона магутнага
родавага дрэва.

Трымаю аберуч святыню — Мамай
сатканы ручнік
з кутасамі надзеі і веры і не веру,
што некалі
гэтае сонейка зойдзе!

2

Ты пісала: «Буслы прыляцелі,
Як заўсёды — на наша гумно...»
Як буслы, на дзіцячых арэлях
Я у неба ўзлятала, даўно...

Я успомню, як лён мы палолі
І пяялі вячэрняй парой.
...Жаўрукі па-над жытам у полі
Анямелі без песні тваёй.

### Вясна ў Бялынічах

Над Няропляю[1] —
Баравіна.
Водар бору
Трывожна п'янкі.
Над Няропляю —
Ураган салаўіны
Раскалыхвае
Песняй
Вякі.

[1] Няропля — рэчка.

●

Мне сніцца будуць твае вочы.
Твой гнеў і радасць.
...Горкі прысак.
Век не забыць пажару здрады.
А мне ж з табою свет адкрыўся.
Віхор замовай заблудзіўся?

...З табой нанова свет адкрыўся
у гэтым колкім снегападзе,
ў стыхіі вечнасці самой!

Віхор. Завея. А ў паглядзе —
агеньчык радасці сляпой.

●

Нідзе няма такіх бяроз,
Як на маёй Радзіме,
Такіх русявых доўгіх кос,
Такіх азімін.
Такіх бароў і курганоў,
І калыханак...
Іду дамоў, лячу дамоў —
На мілы ганак.
Аер, і поплаў, і садок,
І ў мяце — сенцы,
І той, над мамаю, грудок, —
Навек у сэрцы!

## Віктар ШНІП



### Чэргі

Адным па чарзе, а другім без чаргі.
Адны з іх купляюць, другія бяруць.
Купіў бы што-небудзь, ды маю даўгі,
Што іншым пазычыў—не хочуць
вярнуць.

Куды ні пасунься—усюды чарга.
На могілкі нават стварылі чаргу.
І моляцца грошам, нібыта багам,
Маліцца на гэтых багоў не магу.

Ну што з гэтых грошай, не тлела б душа.
Хоць кажуць: сягоння працей без душы.
Калі у кішэні няма ні шыша,
Што маеш душу—то кажы ні кажы.

А чэргі растуць, вырастаюць даўгі.
Мне кажуць: не ўмееш ты грошай
рабіць.
Адно што магчыма заўжды без чаргі—
Хапуг ненавідзець і край свой любіць.

●

### Казка пра волата

Зямелька тая—не святая,
Там цмокі страшныя жывуць,
Там ёсць сякера залатая,
Якой галованькі сякуць.
Вось гэту казку баіў вецер.
Паверыў волат і пайшоў
Змагацца з цмокамі у свеце,
Якія п'юць людскую кроў.
Не перамог нідзе нікога,
Адно што боты растаптаў.
Зноў прывяла дамоў дарога,
Прасцей—туды, дзе дом стаяў.
Другую казку збаіў вецер.
Паверыў волат, як заўжды,
Пайшоў за цмокамі па свеце,
Шукаць іх страшныя сляды.

●

Вады сцюдзёнае святло
Са студні выбралі за лета.
А мо святла і не было?
Я зноў задумаўся пра гэта.

Вядро укралі з ланцугом
Свае, а не чужыя людзі.
У іх закон: «Не прападзём,
Пакуль хоць што украсці будзе».

І сапраўды — не прападуць,
Бо мы ім не дадзім прапасці.
Я разважаю пра бяду,
Даўно не думаю пра шчасце.

Вядра старога не шкада,
Мяне найбольш хвалююць людзі...
Было вядро, была вада,
І вёскі хутка ўжо не будзе.

### Акно

Акно нервова занавешу,
Каб не глядзець на небакрай.
Дубы стаялі там, як вежы...
Цяпер там трэсачкі збірай!

Не занавесіцца ад болю,
Пусцеюць словы пра любоў.
Пусты блакіт,
пустое поле—
Прастор для крыку і вятроў.

«Дубы стаялі, нібы вежы...»
Каму я гэта гавару?..
Акно,
падумаўшы,
адвешу
І пыл
на шыбіне
сцяру.

●

Нібыта збавенне ад болю,
Прыходзяць пагодныя дні.
Іду па шырокаму полю,—
Па лёсу свайго далані.

Ад ветру настрой не залежыць,
Ад ветру сцяжыны пыляць.
На ўзгорку чырвоныя вежы
Паважна і мудра стаяць.

Ад вежаў сцюдзёныя цені,
У травах цагліны блішчаць.
У вежу заходжу,
ступені
Драўляныя
ў неба
рыпяць.

Пясчынкай сябе адчуваю
Пад чыстай святой сінявой.
Ля вежы вятры завываюць,
На вежы трава
і спакой.



Стары горад.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

## Віктар ГАРДЗЕЙ



●

І налева, і направа
Мітусня, уздым і шум.
Далучыцца маю права
Да жывых дзяржаўных дум.

Адусюль прыходзяць весці,
Што святлее небасхіл.
Трэба жулікаў патрэсці,
Каб курэў над імі пыл.

Працавалі, будавалі,
Ды ў хлусні імпэ загруз.
Ачышчальнай буры хвалі
Змыюць смецце, змыюць друз.

Па былым у коле вузкім
Уздыхаюць панічы
Бруханогія малюскі
І бяздарныя сычы.

Ачышчэнне, абнаўленне
Недарэмна пачалі —
Для наступных пакаленняў
Будзе светла на зямлі.

●

Сярод раўнін, сярод пагоркаў
Я тут, вядома, не чужы.
Падсвечана палыннай зоркай
Жыццё на дымным рубяжы.

Каб жыць разумна і цвяроза,
У лес іду, дзе пазнаю
У гэтых елках і бярозах
Радню душэўную сваю.

Я тут здаўна жыву трывогай:
Не лопнула б сваяцтва ніць.
Людзей між дрэў не так і многа,
Каб хлеб па-брацку не дзяліць.

З пагорка шум лясны паслухай:
Нялёгка жыць, калі адзін.
Я не слабы, я моцны духам
Паміж дуброў, сярод ялін.

У сэрцы боль прыціхне востры,
Які замучвае штодня.
Я вас люблю, браты і сёстры, —
Мая адвечная радня!

●

Я зноў пра бэз, я зноў пра пчолку,
Таму што ў вочы сорам коле,
Таму што нават у вясёлку
Заплёўся ўжо і чорны колер.

Ці бачыў хто, з якой пакутай
Сасоннік дыхае каравы?
Мазутам, жыжкаю, атрутай
Сцякаюць рэчкі і канавы.

Знішчае чалавек прыроду:
Зрабіў труну — майструе века,
Ды першай, помсцячы за шкоду,
Прырода знішчыць чалавека.

Заб'ецца луг пяском сыпучым,
Засохне гай, здрабнее колас,
І перад крахам немінучым
Заплакаць хочацца мне ўголас.

Пакуль ёсць чыстыя паляны,
Пакуль ёсць росныя палеткі,
Няхай цвіце мой бэз духмяны,
Няхай пчала ляціць на кветкі.

ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

# ЁН АБРАЎ ПСЕЎДАНІМ ДЗЕДЛАЎ...

І паходзіць гэты псеўданім ад назвы невялікай вёсачкі Дзедлаў, што знаходзіцца за два кіламетры ад маіх родных Асмолавіч. Гэтая назва і прыйшла на змену Адзінцы — псеўданіму, якім першапачаткова падпісваў свае літаратурныя творы У. Л. Кігн.

Асмолавічы. Невялікая вёсачка. Нічога асаблівага не ўяўляе. І тым не менш... Аднапавярховы, прасторны, з чырвонай цэглы будынак на ўзгорку пры ўездзе ў вёску з захаду, з боку Варшаўскай шашы, на супрацьлеглым баку ракі, — своеасаблівы помнік вядомаму ў свой час і амаль забытаму ў нашы дні літаратару, мастацкаму крытыку, вялікаму майстру падарожных замалёвак і яркіх рэпартажаў, страснаму прыхільніку вялікага таленту А. П. Чэхава, яго сябру і беларускаму карэспандэнту — Уладзіміру Людвігавічу Кігну.

У нашы краі Кігны прыехалі з чатырохгадовым Уладзімірам ў 1860 годзе і пасяліліся ў вёсцы Фёдараўка, што за тры кіламетры ад маіх Асмолавіч. Адвакат Людвіг Іванавіч Кігн і яго жонка, беларуская фалькларыстка Елізавета Іванаўна, да замуства Паўлоўская, людзі гуманныя, філантропы, карысталіся нязменнай павагай сярод сялян. А мая маці Марфа і яе бацька, мой дзед Самуіл Кавалёў, проста багатварылі іх. І ў іх былі на гэта свае асаблівыя, вельмі важкія прычыны (яны знаходзілі працу і атрымлівалі не раз дапамогу ў сваіх заможных суседзяў).

Да слова сказаць, Е. І. Паўлоўская займалася да замуства збіральніцтвам народных песень у Магілёўскай губерні. У 1853 годзе выйшаў у свет яе зборнік «Народныя беларускія песні». Гэтая праца атрымала станоўчы водгук у рэцэнзіях яе сучаснікаў. І ў наш час В. К. Бандарчык даў высокую ацэнку гэтаму зборніку, назваўшы яго ў сваёй манаграфіі буйной работай 50-х гадоў мінулага стагоддзя.

Перагорнем некаторыя старонкі жыцця і творчасці У. Л. Кігна...

На дзевятым годзе жыцця Валодзя Кігн ажыццявіў яшчэ адно падарожжа. Цяпер ён паехаў на вучобу ў Маскву. Атмасфера ў сям'і, рэвалюцыйныя настроі ў грамадскім жыцці краіны, у літаратуры і мастацтве спрыяльна паўплывалі на ўражлівага, эмацыянальнага юнака. У гімназіі ён арганізаваў тайны рэвалюцыйны гурток. За прапаганду сярод сялян ідэй, узятых з «Отечественных записок», У. Кігна выключылі з гімназіі. За семнаццацігадовым юнаком быў устаноўлены негалосны паліцэйскі нагляд. Але сапраўдным рэвалюцыянерам ён не стаў: саслоўная закваска была густа замешана.

Пасля «пакут па прыватных навучальных установах» У. Кігн нарэшце атрымаў пасведчанне аб заканчэнні гімназіі і паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Вучыўся паспяхова. Шмат чытаў. Стаў пісаць сам. У апавяданні «Экзамен сталасці» выказаў свае першыя юнацкія думкі і высновы. Ні на хвіліну не пакідаў ён у спакоі пытанне: «А ці стану я сапраўдным пісьменнікам?» Ён рашаецца напісаць І. С. Тургеневу. Вялікі рускі пісьменнік закончыў сваё да яго цёплае пісьмо такімі словамі: «Жадаю Вам — майму названаму ўнуку — усемагчымых поспехаў». Падтрымка І. С. Тургенева падбадзёрыла і акрыліла У. Л. Кігна. Пачынаючы пісьменнік напружана працуе. Пасля заканчэння універсітэта ён друкуецца не толькі ў «Неделе», але ўжо мае доступ у «Вестник Европы», «Дело», «Наблюдатель», «Ниву» і «Русское богатство». Пад псеўданімам У. Дзедлаў ён выступае з апавяданнямі, нарысамі, рэцэнзіямі. Рыхтуе да поўнага выдання свае «Школьныя ўспаміны» пра нізкі ўзровень навучання і выхавання ў гімназіях царскай Расіі. У цыкле нарысаў «Беларускія сілуэты» піша пра гаротнае жыццё беларускіх сялян.

Кола знаёмстваў у нашага земляка з кожным годам пашыралася. У. Дзедлаў блізка сышоўся з многімі літаратарамі, мастакамі, архітэктарамі, артыстамі. Быў асабіста знаёмы з А. М. Горкім. А А. П. Чэхава, як ужо гаварылася, ён палюбіў і да апошніх дзён свайго жыцця не здрадзіў гэтаму пачуццю. Засталася неацэнная эпісталярная спадчына пра цёплыя, сяброўскія адносіны паміж А. П. Чэхавым і У. Л. Кігнам.

У пісьмах А. П. Чэхава да Кігна - Дзедлава прыгадваецца толькі наш Доўск. Гэта і зразумела. У гэтым населеным пункце, за восем кіламетраў ад Фёдараўкі, знаходзілася паштовае аддзяленне і валаснае ўпраўленне Рагачоўскага павета, адкуль паступала карэспандэнцыя ў маёнтак У. Л. Кігна. Адсюль жа ішлі паштовыя адпраўленні да яго шматлікіх адрасатаў, да Чэхава.

У. Л. Кігн быў цвёрда пераканаваны ў тым, што без ведання сапраўднага жыцця, мясцовых умоў і быту людзей няма пісьменніка. Выкарыстоўваючы службовыя камандзіроўкі, ён шмат падарожнічае — па краіне і свеце. Гэтыя падарожжы, як правіла, заканчваліся плённай літаратурнай працай. Так, пасля камандзіроўкі ў Сібір і на Далёкі Усход з'явіліся кнігі «Перасяленцы і новыя мясціны», «Панарама Сібіры» — пра жабрацкія ўмовы жыцця перасяленцаў, кінутых царызмам на волю лёсу.

Але куды б У. Дзедлаў ні паехаў, чым бы ні займаўся, заўсёды думаў пра Беларусь, пра сваю Фёдараўку. Уладзімір Людвігавіч шчыра любіў наш край, лічыў сябе карэнным беларусам. Ганарыўся гэтым. Вось чаму толькі ў зімовы час ён жыў у Пецярбурзе, калі быў вольны ад камандзіровак, паездак і падарожжаў. Астатні час, з ранняй вясны да позняй восені, ён праводзіў у Фёдараўцы і яе наваколлі. А апошнія гады свайго жыцця жыў тут бязвыезна, падводзіў вынікі сваёй літаратурнай дзейнасці. Напісана было шмат, але не ўсё апублікавана.

Асабістая незадаволенасць сваёй літаратурнай творчасцю, неаб'ектыўныя меркаванні зайздроснікаў, вострая форма дыябету, неладкаванасць асабістага жыцця зрабілі з яго пустэльніка. «Яму, з яго талентам, не ўсміхнулася слава».

У. Л. Кігн з нецярпеннем чакаў у Фёдараўцы абяцанага прыезду А. П. Чэхава. Шмат працаваў за пісьмовым сталом у сваім кабінеце, чаргуючы гэты занятак з працай у садзе. Ён задумаў выданне збору твораў і разлічваў на дапамогу А. П. Чэхава, «дабро» якога ён ужо атрымаў.

Высокага госця Уладзімір Людвігавіч, на жаль, не дачакаўся. Прыйшла вестка аб заўчаснай смерці А. П. Чэхава. Артыкул У. Л. Дзедлава, напісаны па прапанове «Русского вестника» з выпадку смерці Чэхава, па сутнасці, — споведзь бескарыслівага сябра на магіле вялікага мастака рускага слова.

Фёдараўка... Адзін з райскіх куточкаў Беларусі... З паўднёвага боку да самага возера з яго экзатычным астраўком, і далей, на задах, узняўся амфітэатрам сасновы бор уперамешку з ёлкамі і лісцёвымі дрэвамі. А з поўначы, да адной з дзвюх вуліц, ушчыльную падступае яблыневы сад, які раскінуўся на дзесяткі гектараў і затулены з усходу шчыльнай градой магутных елак, а з паўночнага і заходняга бакоў — ліпавымі алеямі. Яшчэ дзве алеі раскошных ліп у выглядзе лацінскай лічбы пяць, вугал якой знаходзіцца якраз ля парога сядзібы У. Л. Кігна, разразаюць сад і адыходзяць на поўнач.

Вялікі яблыневы сад і цяністы парк з векавымі ліпамі, клёнамі і ясенямі. Старажылы добра помняць, як гаспадар сам працаваў тут, у сваім садзе, да сёмага поту.

Ад маёнтка ацалеў будынак, абшыты драніцай, дзе знаходзіліся розныя гаспадарчыя службы, кладоўкі (недзе тут, у вінным паграбку, вытрымліваліся наліўкі і настойкі, якімі збіраўся пачаставаць А. П. Чэхава гасцінны фёдараўскі хлебасол і бачуркі для якіх рабіў мой дзед).

Вечны спачын У. Л. Кігн-Дзедлаў знайшоў на могілках, размешчаных на ўзлессі. Яны старанна дагледжаны, прыбраны, дарожкі паміж магіламі пасыпаны жоўтым пяском. Участак для магілак выбраў яшчэ бацька Уладзіміра Людвігавіча ў пачатку шасцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. Пра гэта сведчыць тэкст, выразаны на трохметровым крыжы ля ўваходу на могілкі, які ўзняў У. Л. Кігн у 1907 г. Ніз дубовага крыжа падгніў; магільныя пагорачкі Людвіга Іванавіча, Елізаветы Іванаўны і Уладзіміра Людвігавіча прырода зраўняла з зямлёй. Надмагільны гранітны помнік У. Л. Кігну з адбітым верхам стаіць ля падножжа магутнай сасны. Побач яшчэ два такія ж сасновыя дрэвы: разам утвараюць трохкутнік. Дрэвы быццам застылі ў ганаровай варце ля магілы пісьменніка-гуманіста У. Л. Кігна-Дзедлава.

Нагадаю пад канец і яшчэ адзін факт: у памяць аб сыне Елізавета Іванаўна Паўлоўская пабудавала ў маіх Асмолавічах пачатковую школу.

**І. ПЛАДУНОЎ.**

Рагачоўскі раён.




(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4).

З кожным годам радзее чупрына на Валікавай галаве. Мяняюцца коні пад самаробнымі сёдламі, на якіх ён пасе гавяду. Змяняюцца і цяляты, што прыганяюць сюды з цэнтральнай сядзібы «Дружбы». Не змяняецца толькі вёска. Далёка яна ад добрых праезджых дарог. І, здаецца, жыццё тут застыла, як паверхня вадаёма, пакрытага зялёнай бросняй. Вечарамі ў дамах запальваюцца блакітным святлом экраны тэлевізараў — акенцы ў кіпучы, іншы свет. А ці ж нельга змяніць становішча спраў? Ці такі ўжо безнадзейны лёс Багатай Грады? Трэба прызнаць, што плёскат хваляў ад перабудовы пакуль не дакаціўся да гэтых мясцін.

## НЕКАЛЬКІ ЗГАДАК

Быў час, калі ў Багатай Градзе працавала ферма. Кароўнікі былі вынесены за вёску. З захаду золкі вецер натыкаўся на густы бярэзнік. Сцены пад восень ашчадна канапацілі. Шчыліны забівалі сухім мохам (яго было заўсёды шмат у паблізу раскіданых імшарах). Шмат якія з жанчын працавалі даяркамі. І зараз атрымліваюць пенсіі, што зарабілі на той ферме.

Потым дойны статак забралі на цэнтральную сядзібу. Хлявы разабралі па бервяну і перавезлі ў Каўпень. А на гэтым месцы з сасновых жэрдак збілі загараддзь. Цяпер з ранняй вясны, калі ў балацявінах пачынае цвісці лотаць, сюды прыганялі маладняк.

— Ну, Валік, прыйшоў твой час, — жартуюць людзі з Кульгавага.

Як і кожны год, Валянцін Іванавіч спачатку паказвае свой гонар: не згаджаецца быць пастухом.

— Няхай каго другога шукаюць, — адмахваецца ён.

Але каго другога? Не будуць жа з Каўпені ездзіць тры пастухі за восем кіламетраў пасвіць у той час, калі Валік з Грады будзе хадзіць лайдаком. Ды і не такі чалавек Кульгавы, каб лайдачыць. За ўсё сваё жыццё ён з'ездзіў адзін раз па калгаснай турыстычнай пуцёўцы на Каўказ. Машы прывёз прыгожую хустку, а сам і цяпер пры выпадку ад здзіўлення круціць галавой:

— Такія там горы, пакрытыя снегам, што шапка з галавы звальваецца, калі глядзіш. Ох, браткі, і горы!

У загараддзь прыганяюць статак, Валік пачынае пасвіць яго з былой крамніцай Маняй Коваль (яе з-за п'янкі звольнілі з крамы). З Каўпені даюць ім трэцяга пастуха. І ўсё пачынаецца, як звычайна...

Вядома, калі б у гэтай вёсачцы зрабілі нейкі падсобны цэх, ці адкрылі невялікую жывёлагадоўчую ферму, зрабілі гравійку да цэнтральнай сядзібы, жыццё ажывілася б. А чаму б і не зрабіць такі цэх?

І адразу ўспамінаю, як восенню дзве Машы (Валікава і Башмакова), ды і яшчэ з пяток жанчын (сярод іх ёсць і Мані і Машы) бяруць з сабой самаробныя лейцы ды ідуць на бліжняе балота. Там, за могілкамі, у куп'і расце цубкая тонкая трава. Жанчыны яе выскубваюць, складаюць у важкую ношку, потым перавязваюць і нясуць дадому. А калі ў Кульгавага вольны конь, ён прывозіць на калёсах тую, падобную на сівец, траву. Кабеты потым пранікамі ці качулкамі разбіваюць травяныя карэнчыкі. І вяжуць са смычаю пэндзлі.

У Лоеве на рынку, калі сустрэнеш жанчыну, якая прадае пэндзлі (штука — рубель), ведай: яна — з Багатай Грады. Дык хіба не мог бы калгас узначаліць гэтую справу?

У рэшце рэшт справа ўпіраецца ў дарогу. Колькі машын гробіцца на тых глыбачэнных калаінах у асеннюю і вясновую бездараж! Вядома, нялёгка насыпаць восем кіламетраў больш-менш вартай дарогі. Ды, відаць, іншага выйсця і не знойдзецца, як выдзеліць у пару, не такую гарачую ад сельскагаспадарчых работ, колькі машын і бульдозераў, каб зрабіць такую-сякую дарогу.

Ёсць у цэнтры вёскі будынак клуба. Але ў ім павыдзіралі вокны падлеткі, якія прыязджаюць да бабуль з Гомеля, разбурылі грубку. Раней калгас плаціў Валянціну Кульгаваму, і ён прыглядваў за будынкам. Зараз усё прыйшло ў разрух, запусценне. З цяжкай душой праходзяць людзі паўз гэты так званы клуб.

Усё гэта павінны ўлічыць члены праўлення. І перш, чым пачаць работу, сто разоў прыкінуць: а ці акупіцца ўсё?

Вядома, пры ахвоце выйсце знойдзецца. Скажам, прапанаваць асобным жыхарам сямейны падрад. Гадаваць цялят, ці вырошчваць свіней, думаецца, тут многія падахвоціліся б.

●

Вядома, не пра ўсіх жыхароў я тут напісаў. Жыве, напрыклад, на вуліцы з чатырох хат былы старшыня мясцовага сельсавета Рыгор Паўлавіч Карась. Чалавек усю вайну праваяваў.

— Паверыш? — гаварыў ён аднойчы мне, калі сабраўся ехаць на сустрэчу з аднапалчанамі ў Крэмянчуг, які вызваляў. — За ўсю вайну ні разу не начаваў у цёплым памяшканні.

Але хоць Рыгор Паўлавіч і лічыцца ў актыве, ён адгарадзіўся ад паўсядзённага жыцця сваім дваром. Як стаіць добрае надвор'е, дык, пакрэктваючы, носіць з лесу гонкія асінкі на жэрдкі. Абгароджвае чалавек сваю сядзібу. Старыя жэрдкі трухлеюць, гніюць...

Часта бачу я, як у Валікаў калодзеж ідзе браць ваду прыгнуты гадамі Анан. Цяпер з маладзейшых мала хто ведае, што некалі — у трыццатыя гады — гэта быў няўлоўны канакрад. Выводзіў коней цёмнымі начамі з канюшань, і ў цемры толькі часты тупат напамінаў, што нехта паімчаўся за Баравое. На калгасным кані папаўся Анан і адсядзеў не адзін год у далёкай Сібіры. Там і ажаніўся. А калі памерла жонка-сібірачка, вярнуўся ў Багатую Граду да свае Агапы... Так і дажываюць удваіх свой век.

Можна было б расказаць пра двух леснікоў Іванаў — Анісаўца і Каваленку. У кожнага з іх ёсць конь. Калі вясной пачне параваць пад сонцам зямля, у каторага з Іванаў можна наняць каня ўзараць сядзібу. (Шкада, але ў «Дружбе», як і ў многіх іншых гаспадарках раёна, коней амаль звялі).

Можна б расказаць і пра Мар'ю Манойленку. Яна некалькі гадоў назад пахавала мужа. І цяпер з вясны да восені і з касой і з сякерай упраўляецца не горш за якога мужчыну.

...А на могілках, якія абступілі дубы-мацакі, часта можна ўбачыць Маню Каваленку — жонку лесніка Івана. Яна прыпадае галавой у чорнай хустцы да паліраванага мармуру помніка. З яго ясна глядзіць зусім юны твар салдата ў пілотцы. Прывезлі цынкавую труну з далёкага Афганістана. Няўцешнае мацярынскае гора. Вось ужо некалькі летаў і зім мінула ў Багатай Градзе, а рана на сэрцы не загойваецца...

Шмат на могілках у сасняку спачывае вяскоўцаў. (Пад пафарбаванымі ў зялёны колер крыжамі ляжаць тут і бацькі маёй жонкі). Летам ля металічнай агароджы могілак цвіце чабор, на ўзлобках пагойдваюцца смолкі, жаўна крычыць у галлі дрэў. Агароджу паставілі, як старшынёй працаваў Рыгор Карась. А Валянцін Іванавіч Кульгавы яе пафарбаваў. На радаўніцу, калі падаюць у бярэзніках першыя галасы берасцянкі, сюды прыходзяць багатаградцы. Прыносяць у кошыках простыя пачастункі. Успамінаюць дзядоў, бабуль, мацярок і сясцёр...

## ПЕРАКЛАДЫ

# «ДУША ІМКНЕ Ў МАЛЕНСТВА, ЯК У ВЫРАЙ...»

**Ліна Кастэнка нарадзілася ў г. Ржышчаве на Кіеўшчыне. У 1956 г. скончыла Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве. Першую кніжку вершаў выдала ў 1957, другую ў 1958 г.**

Яркі, самабытны голас украінскай паэтэсы магутна загучаў у яе вядомым гістарычным рамане ў вершах «Маруся Чурай» (1979 г.).

Гэта быў твор, які ў многім апярэджваў свой час, рушыў звычныя, усталяваныя погляды, канцэпцыі і крытэрыі. Нядзіва, што сапраўдная ацэнка ўсёй значнасці гэтага твора склалася ўжо ў нашы дні, у перыяд рашучага аднаўлення самых першаасноў сучаснага грамадства. Паэтэса стала лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Т. Р. Шаўчэнкі.

Асабіста для мяне вялікай радасцю была яшчэ і другая навіна, што Ліна Васільеўна ўсім святлом свайго таленту далучылася да дзіцячай паэзіі. Яшчэ раз пацвердзілася даўняе перакананне: рана ці позна ўсё самае лепшае, што ёсць у літаратуры, у мастацтве, заўсёды становіцца здабыткам, які прысвойваецца дзецьмі. Гэта добра прадчувала паэтэса, калі яшчэ ў «Марыі Чурай» даверліва прызнавалася: «Душа імкне ў маленства, як у вырай, бо ёй на свеце цёпла толькі там».

Як жа ёй, гэтай душы, у вырaі маленства, у кнізе вершаў «Бузіновы цар», якая выйшла летась у Кіеве з цудоўнымі ілюстрацыямі Вікторыі Кавальчук? Скажам шчыра: раскошна, весела, уцешна і радасна! І самая, бадай, шчаслівая адметнасць гэтай кніжкі ў тым, што дзіця ў сваіх першых дачыненнях да гучання слова, да характва вобраза набывае галоўны капітал, які на ўсё жыццё робіць чалавека багатым бясконцасцю шчасця.

Як быццам, усё знаёма і блізка: навакольны свет, асяроддзе, прырода, нават традыцыйныя фальклорныя рэаліі, што перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Але гэта толькі першыя арыенціры. Як усё мяняецца, трансфармаванае сапраўдным талентам! Усё адкрываецца, спазнаецца нанава, у новым святле, у шматколернасці фарбаў і гукаў!

Ці мала хто з нас бачыў, як верабей нясе ў сваё гняздо пушыстае пёрка? Здаецца, не такая ўжо гэта, вартая ўвагі падзея. Як для каго. Для дзіцяці, убачаная яго вачыма, гэта, сапраўды, падзея ўжо не толькі ў зрокавым успрыманні, а перш за ўсё ў выяўленні пачуцця спагады, далучэння сэрцам да жывых істот, якім неўзабаве, пэўна ж, будзе няўтульна і халадна. Гэта ўжо тое зярнятка дабра, што змалку павінна ўпасці на сваю ўдзячную глебу.

А вось два, зусім блізкія між сабою вобразы: баба Завея і Пралля. А якія розныя ў характарах, у рухах, у гучанні, у музыцы! Цэлы каскад фантазіі: кожны сказ, слова, параўнанне, гук — жывы штуршок, які будзіць, творча актывізуе дзіцячую думку, нараджае ўсё новыя і новыя ўяўленні!

Пачаўшы чытаць гэтую кніжку, я ўжо не мог вызваліцца ад яе чарадзейнай улады, каб не ўвасобіць амаль усю і ў нашай мове, прысвоіць яе беларускім дзецям.

Васіль ВІТКА.

Ліна КАСТЭНКА

### Вароты лета замыкае восень

Зададжджыла. Захлюпала.
Жнівень кінуў свой серп.
Цвыркуны, перапёлкі спынілі
канцэрт.

Сумны бусел схіліўся
ў паклоне лугам і садам.
Адлятаючы ў Афрыку,
спакаваў чамадан.

Дзе ты, лета, ужо не чуваць,
не відаць цябе штосьʼ?
Восень, вось яна, восень!
Восень, вось яна, вось!

То ж яна замыкала вароты
твае уначы,
Жураўліныя ў небе згубіла
ключы.

### Мурашы рыхтуюцца да зімы

Знайшоў мураш сухую
бадыліну.
Вязе-вязе... вязе-вязе...
І так, і сяк, і ўгору,
і ў даліну!—
Такая цяжкая, ніяк не дапаўзе.

На дапамогу збеглася сябрына,
І коніка гукнулі скакунца.
Тры дні на дровы пілавалі
бадыліну,
Пакуль не ўправіліся да канца.

### Вавёрчыны грыбы

На суччках, самых ценькіх,
покуль дзень яшчэ не згас,
вунь вавёрачка апенькі
нанізвае пра запас.

Строгія ў яе парадкі:
на галінку, як на цвік,
сюды—грузд, сюды—масляткі,
сюды—позні баравік.

Покуль дзень стаіць харошы,
не сышло яшчэ цяпло.
А як выпадзе пароша,
забярэ грыбы ў дупло.

Будзе замаразак брацца,
снег пасыплецца з дубоў,
а ў вавёрччынай хатцы
вязка сушаных грыбоў!

Ды вавёрчацы не спіцца.
Дзяцел грукае: тук-тук,
каб не ўкрала іх лісіца
або хітры бурундук.

### Верабей з белай барадою

Людзі, разбягайцеся,
хто куды, кудою!
Паявіўся верабей з белай
барадою!

Што за дзіва дзіўнае?—
скажа кожны з нас,—
Я такую бараду бачу першы
раз.

Можа, ён старэйшы ці за ўсіх
мудрэй?
Можа, ён заслужаны верабей?

Не, нясе не крошку ён,
не скарынку—
Пёрачка пуховае дзеткам
на пярынку.

### Баба Завея

Баба Завея ў нашым сяле
ранкам з'явілася на мятле.
Па падваконню хадзіла пешаю:
— Людзі добрыя, пазычце
рэшата!
Ой, не будзе мне, сівай,
спакою,
як палі не засею мукою.
Мерзне ранняя рунь, мерзне
жыцечка.
Няма рэшата, дайце сіцечка!
Так на мятле яна едзе і сее
белай мукою, баба Завея.

### Пралля

Сядзіць пралля дый прадзе—
снег ідзе, ідзе, ідзе,
рвецца нітка дзе-нідзе,
а яна прадзе, прадзе.
Столькі дзён упрыцён
накруціла верацён
на сувоі палатна,
на фіранку для акна,
на хусціну, пакрывала—
мала, мала, мала, мала,
снег ідзе, ідзе, ідзе,
а яна прадзе, прадзе...

### Сінічкі на снезе

Ад холаду трываюць ледзьве—
такая лютая зіма!
У цёплы вырай паляцець бы,
ды бацькаўшчыны ж там няма.

### Заечы карнавал

Колькі радасных прыгод
У зайцоў на Новы год!

Зоры ззяюць на ялінцы.
Дзед Мароз прынёс гасцінцы.

Прамяцём сабе дарожку.
Будзем танцаваць патрошку.

Маскі зробім з будзякоў.
Напалохаем ваўкоў!

### Дзед Равун

Акно. Туман. Галінка арабіны.
Уночы груш нападала ў траву.
Вунь дзед Равун ідзе ўжо без
тарбіны,
таму што я не плачу, не раву.

Гарод і поле. Тут усё мне
блізка,
такое роднае, не на падман.
Лятае голуб над іржышчам
нізка,
крыло цяжэйшым стала,
бо туман.

Туман. Імжа. Вазьму я ліст
паперы
і намалюю гэту акварэль;
гатовая заплакаць, што не веру,
што дзед Равун у торбу забярэ.

# ПАМЯЦІ ТАВАРЫША

**27 сакавіка 1988 года на 60-м годзе жыцця памёр член Саюза журналістаў, рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Пятро Захаравіч Шаўцоў.**

**П. З. Шаўцоў нарадзіўся 24 ліпеня 1928 года ў вёсцы Дамамерычы Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў Гродзенскі гандлёвы тэхнікум, Цэнтральную камсамольскую школу (Масква), Мінскую вышэйшую партыйную школу. Працаваў у рэдакцыях раённых і рэспубліканскіх газет, на кінастудыі «Беларусьфільм», у выдавецтве «Беларусь».**

**У выдавецтве «Мастацкая літаратура» П. З. Шаўцоў працаваў з першага дня яго арганізацыі і зарэкамендаваў сябе сур'ёзным і патрабавальным рэдактарам, чулым, добразычлівым сябрам пісьменнікаў. Выйшлі ў свет адрэдагаваныя ім многія значныя выданні, у тым ліку шматтомныя зборы твораў Івана Шамякіна, Алеся Адамовіча, Івана Навуменкі, Андрэя Макаёнка.**

**На працягу многіх гадоў Пятро Шаўцоў актыўна займаўся даследчыцкай працай. Яго пяру належыць шэраг нарысаў і літаратуразнаўчых артыкулаў. У 1973 годзе выдадзена яго кніга «Спрадвечнае» — даследаванне аб праблемах аўтарства вядомых ананімных паэм «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат», месцы і часе іх напісання.**

**Чалавек высокай унутранай культуры, вялікай эрудыцыі і шчодрай душы П. З. Шаўцоў назаўсёды застанецца ў памяці ўсіх, хто яго ведаў і працаваў разам з ім.**

**ГРУПА ТАВАРЫШАЎ.**

# «МАТЧЫНА СЛОВА»

**У Іўеўскім раёне Гродзенскай вобласці прайшоў тыдзень дзіцячай кнігі. «Матчына слова» — гэтак назвалі васьмікласнікі Бабравіцкай СШ кніжчына свята. Вучні чыталі вершы, спявалі народныя песні, танцавалі «Лявоніху». Ва ўсім адчувалася любоў да роднай мовы, да роднага краю, зацікаўленасць не толькі творчасцю сучасных паэтаў, але і спадчынай. Дапамаглі ім правесці свята старэйшы настаўнік школы М. Ю. Клінцавіч і малады педагог Г. Пятраш.**

**Закончыўся тыдзень дзіцячай кнігі ў Доме культуры гарадскога пасёлка Іўе, дзе сабраліся вучні розных школ раёна. Тут юныя паэты чыталі свае вершы, прайшоў конкурс на лепшага чытальніка вершаў беларускіх паэтаў.**

**Я была запрошана на гэта свята таварыствам кнігалюбаў Іўеўскага раёна. Пабачыла, адчула, як шмат робяць работнікі райана Т. Ламакова, Р. Песля, загадчыца Іўеўскай бібліятэкі Н. Пятраш, адказны сакратар Іўеўскай райарганізацыі ДТК БССР Л. Шклоўская, адказны сакратар Гродзенскай абласной арганізацыі кнігалюбаў Л. Цыхун для прапаганды сярод вучняў беларускай кнігі.**

**Алена КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВА.**

# Наш сябар Алесь Жалдак

Летам сорак трэцяга года, калі фронт затрымаўся на рацэ Міус, мяне перавялі з пасады камандзіра ўзвода ўпраўлення ў 4-м гвардзейскім мінамётным палку на пасаду начальніка разведкі дывізіёна ў такі ж 51-шы полк. Вакансіі свабоднай не аказалася, і мне давялося некалькі месяцаў камандаваць на новым месцы агнявым узводам.

Як звычайна бывае, з першых жа дзён я пачаў прыглядацца да новага акружэння. Афіцэры як афіцэры, з рознымі характарамі, рознымі звычкамі, розным інтэлектуальным узроўнем. Сярод усіх кінуўся ў вочы яшчэ малады, высокі, чарнявы старшы лейтэнант. Вылучаўся ён вонкавай інтэлігентнасцю, стройнай паставай і ўменнем неяк па-асабліваму трымацца ў кампаніі. Гаварыў мала, але як скажа слоўка — як у сук улепіць. Заўсёды ў яго атрымлівалася трапна, смешна і разам з тым не крыўдна для таго, з каго жартаваў.

Звалі яго ўсе Алёшам. Прозвішча ўкраінскае — Жалдак. І гумар яго таксама ўкраінскі, нейкі своеасаблівы, мяккі і нечакана вясёлы. Там, дзе Аляксей Жалдак апыньваўся сярод кампаніі, без смеху не абыходзілася.

Быў ён начальнікам сувязі дывізіёна «кацюш». Служба, як тады жартавалі, «не пыльная», але «носам араць» зямлю даводзілася.

У той час я не ведаў, што да вайны ён быў журналістам, пісаў вершы. Аб даваенным мы гаварылі між сабой мала, толькі самае неабходнае. Ваенная служба, франтавыя будні накладалі на кожнага з нас своеасаблівы адбітак, мы неслі ў сабе і патаемныя даваенныя мары, і асабістае жыццё не выстаўлялі на паказ.

Ды сам воблік Алеся Жалдака быў такі інтэлігентны, адухоўлены, што мая душа гарнулася да яго. Асабліва блізка мы сышліся, калі пры фарсіраванні Дняпра загінуў наш начальнік разведкі дывізіёна, і мяне прызначылі на гэту пасаду. Як кажуць, сам лёс звёў нас. Справа ў тым, што Алесь павінен быў даваць сувязь з назіральнага пункта, які я займаў, у дывізіён. З усіх камандзіраў толькі ён часта знаходзіўся разам са мною на назіральным пункце, і я мог добра прыгледзецца да яго і ўбачыць, які гэта цудоўны чалавек.

Калі выпадала зацішша і можна было выбрацца з НП, паляжаць на траўцы, Алесь першы выбіраўся, як кажуць, на свет божы, выпростваўся на ўвесь свой доўгі рост і ціха гаварыў:

— Як хараша!

Потым так жа ціха пачынаў напяваць што-небудзь з украінскіх песень. А яны ж мілагучныя, душэўныя, прыгожыя.

Такіх часін выпадала мала. Часцей грымеў бой. І вось тады Алесь неяк суровеў, падцягваўся. Відаць было, што кожную мінуту ён чакаў, што варожы снарад, міна ці бомба пераб'юць недзе нітку сувязі, і тады трэба хуценька ліквідаваць разрыў.

На гэта былі сувязісты, якімі ён камандаваў. Але здараліся і такія выпадкі. Аднойчы шквал агню абрынуўся на нас. Сувязь адразу парвалася.

— Давай на лінію! — загадаў Алесь аднаму з тэлефаністаў. Гэта быў ужо немалады чалавек, у якога дома засталіся малыя дзеці. Ен высунуў галаву з бліндажа, убачыў, што ўсё поле, па якім яму трэба бегчы, у выбухах снарадаў і мін, і закалаціўся ад страху.

Нейкі момант Алесь нешта думаў, потым выхапіў катушку з провадам з рук салдата і выскачыў наверх. Агонь тым часам усё мацнеў. Алесь падхапіў нітку, якая вяла ў дывізіён, і пабег на выбухі. Недзе праз паўгадзіны ён вярнуўся, чорны ад пылу, з выпацканымі каленямі і локцямі. Сувязь была адноўлена.

Вось такі ён, Алесь Жалдак. Не раз давялося яму глядзець смерці ў вочы. І ён глядзеў мужна, па-гвардзейску.

Праз дзесяцігоддзі мы зноў сустрэліся з ім — у Запарожжы, у тым краі, дзе некалі ваявалі. Сівізна пакрыла яго галаву. Цяпер ужо ён быў вядомым украінскім паэтам, перакладчыкам. Рэдкі талент гумарыста раскрыўся ў ім яскрава, прыгожа. Яго паэтычныя зборнікі «Перавясла», «Выбрыкі Пегаса», «Раўнавага», «Масцітыя мастакі» і іншыя шырока вядомыя ўкраінскаму чытачу.

З рэдкім талентам піша Алесь Іванавіч пароды, вершаваныя гумарэскі, фельетоны. Слова яго іскрыстае, а часам едкае, вострае і надзвычай трапнае. Нядаўна ён стаў лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Астапа Вішні. Не многія маюць такі гонар.

Беларуская літаратура ўдзячна Алесю Іванавічу за шматлікія пераклады на ўкраінскую мову. Пад яго пяром шчыра і пранікнёна загаварылі па-ўкраінску Я. Купала, Я. Колас, П. Броўка, П. Глебка, А. Куляшоў, М. Танк, В. Быкаў, Г. Барадулін, В. Вітка, А. Вялюгін, К. Кірэенка, К. Камейша і многія іншыя беларускія пісьменнікі.

Яго творы перакладалі на беларускую мову Э. Валасевіч, К. Камейша, М. Чарняўскі.

Алесь Жалдак выканаў работу, за якую звычайна бярэцца рэдка хто з пісьменнікаў: ён пераклаў на ўкраінскую мову зборнік «Беларускія прыказкі і прымаўкі». Агульнавядома, што перакладаць прымаўкі, каб яны былі такія ж мілагучныя, дакладныя, глыбоказмястоўныя, як у арыгінале, надзвычай цяжка. Гэта праца вымагае вялікага майстэрства, светлага таленту.

Паэт-воін адзначае сваё сямідзесяцігоддзе. Гэта добрая нагода, каб выказаць Алесю Іванавічу нашу шчырую ўдзячнасць за важкі ўклад у яднанне беларускага і ўкраінскага народаў, пажадаць яму моцнага здароўя і новага плёну ў творчасці.

Іван НОВІКАЎ.

